# НАША НІВА
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №20 (140) 23 ЖНІЎНЯ 1999г.

зь Беларусі
за суботу й нядзелю

### Сямён Шарэцкі: прыйшоў час

Сёньня, 23 жніўня у 8.00 у Вільні, Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі выдаў «Зварот да ўраду і грамадзян Рэспублікі Беларусь, міжнароднай супольнасьці». Тры дні таму скончыўся месяц, які С.Шарэцкі адвёў А.Лукашэнку на роздум пасьля 20 ліпеня, калі завяршыўся пяцігадовы тэрмін прэзыдэнцтва апошняга і калі, паводле Канстытуцыі, выканаўцам абавязкаў Прэзыдэнта РБ становіцца Старшыня Вярхоўнага Савету. С.Шарэцкі спадзяваўся, што за гэты месяц А.Лукашэнка добраахвотна пакіне пасаду і не захоча стаць нелегітымным прэзыдэнтам-узурпатарам. Ды не дачакаўся.

### Да перамоваў — сур'ёзна

На нарадзе палітычных партыяў зацьвердзілі групы экспартаў, якія мусяць выпрацаваць агульную пазыцыю грамадзянскай супольнасьці на перамовах з Лукашэнкам. На чале групы па пытаньнях канстытуцыйнага й выбарчага права ўстаў адзін зь лідэраў АГП Міхал Пліска, а дапамагаць яму будуць Сяргей Леўшуноў і Аляксандар Фядута. У групе па мас-мэдыях будуць Міхал Пастухоў (старшыня), Уладзімер Глод і Мікалай Халезін. Алесь Бяляцкі бярэцца займацца пытаньнем стварэньня свабоднага палітычнага клімату, вольнага ад страху і перасьледу. Дэпутат Данэйка будзе дзейнасьць групаў каардынаваць.

### Бандажэўскі прысягаецца, што хабару ня браў

Арыштаваны гомельскі прафэсар, рэктар мэдінстытуту Бандажэўскі зьвярнуўся да Лукашэнкі зь лістом, у якім кажа, што яго несправядліва пасадзілі, маўляў, па даносе тых, каго ён вывеў на чыстую ваду як несумленных навукоўцаў, якія бралі грошы на выкананьне навуковых працаў і «пісалі» дасьледаваньні, дзе не было ніводнай сьвежай ідэі. Прарэктар Раўкоў, які раней даваў паказаньні супраць Бандажэўскага, ад гэтых паказаньняў ужо адмовіўся. Бандажэўскага, як даведаўся БелаПАН, перавезьлі з гомельскай турмы ў магілёўскую, але ў яго абвастрылася і стала цячы крывёй язва, і тады яго хуткай перапраўлі ў Менск, у шпіталь МУС.

### «Начысьці морду фашысту»

У Горадні ўсё — рэклямныя шчыты, масты, сьцены — размалявалі лёзунгамі РНЕ і пазаклейвалі іхнымі ўлёткамі. Улады не далі загаду зьдзіраць улёткі, і яны вісяць. Людзі ж, прачытаўшы іх, панапісвалі адказы кшталту: «Зрабі свой горад чыстым, начысьці морду фашысту».

З Горадні — Андрэй Мялешка

### Асіна замест жалеза й плястмасы

На Магілёўшчыне людзі ахвоча купляюць паслугі прыватных камбайнаў, каб зжаць і змалаціць збажыну, бо ўсе калгасныя змабілізаваныя на выкананьне заданьняў па ўборцы, да таго ж яны зусім дабітыя. У калгасе імя Карла Маркса з Крычаўшчыны ганарацца тым, што навучыліся вырабляць запчасткі з асіны — на заводзкія грошай ня маюць.

З Магілёва — Андрэй Антонаў

## У якую школу аддаць дзіцё?

**Каб пасьля за яго не баяцца і каб яно мела высокія шанцы на посьпех у жыцьці.**

Чытайце на старонцы 6.

# ХРЫСТОС У РУКОЙНЯХ

## ДА 2000 ГАДОЎ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

***Учора, 22 жніўня, у Рукойнях пад Вільняй адбыўся фэст з нагоды адкрыцьця манумэнту да 2000 гадоў хрысьціянства работы беларускага скульптара Эдварда Падбярэскага.***

Рукойні — невялічкае мястэчка пры старой дарозе зь Вільні да Менску. Тутэйшы люд гаворыць па-беларуску. Невялікі тутэйшы касьцёл нібы ўвабраў у сябе ўсю гісторыю хрысьціянства ў нашым краі. Некалі тут паставіў праваслаўную капліцу Альгерд, затым ужо Ягайла фундаваў касьцёл. Тая ж бажніца, што стаіць і да сёньня, спачатку была уніяцкаю. Пасьля яе перарабілі ў 1864-м на царкву, а з 1922 году тут каталіцкая парафія.

Менавіта з касьцёла ў Рукойнях, ад самае мяжы, пачалося ў Літве сьвяткаваньне 2000 гадоў хрысьціянства. Да гэтага й было прымеркаванае адкрыцьцё новага манумэнту работы Эдварда Падбярэскага. Вялікі Хрыстос на зямной кулі шырока раскінуў рукі, каб прыняць усіх у свае пастарскія абдымкі, блаславіць край і народ.

На адкрыцьцё манумэнту сабралася багата народу. Правіць урачыстую імшу прыехаў біскуп віленскі Тунайціс, прысутнічаў старшыня Сэйму Літвы сп. Ландсбэргіс. Дарэчы, абодва яны былі фундатарамі працы беларускага творцы. Было багата і іншых духоўных і цывільных гасьцёў. Фэст распачаўся зь літургіі ў касьцёле, які таксама аздоблены Эдвардам Падбярэскім. Затым урачыстае шэсьце прайшло праз усё мястэчка, гожа прыбранае й расквечанае.

Фэсты зазвычай скrandчаюцца пачосткамі. І людзі разыходзяцца па дамах. А белы Хрыстос застаецца пры дарозе, на ростанях... Цяпер ён, у залатых промнях, заўсёды будзе вітаць падарожных зь Менску да Вільні.

Гары Куманецкі



# Размова ідзе пра верасень

***Апазыцыя будзе чакаць сустрэчных крокаў яшчэ месяц***

Пра гэта дамовіліся Старшыня ВС Сямён Шарэцкі з паслом АБСЭ Гансам-Георгам Вікам і ягоным намесьнікам сп.Гансам Кляйнэрам.

Сустрэча адбылася ўчора, 22 жніўня, у Вільні, у сядзібе Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Пасьля перамоваў пры зачыненых дзьвярах сп.Шарэцкі адказаў на пытаньні карэспандэнта «НН».

**С.Шарэцкі:** Гэта ўжо трэцяя мая сустрэча з прадстаўнікамі АБСЭ. Сп.Вік выконвае пастановы гэтай арганізацыі, у якую ўваходзяць прадстаўнікі парлямэнтаў з 54 краінаў, каб знайсьці выхад з таго крызысу, што ўтварыўся ў Беларусі. Яны спадзяюцца, што эканамічны стан і міжнародная ізаляцыя, у якіх знаходзіцца Лукашэнка ды ягоны ўрад, змусяць яго сесьці за стол перамоваў. Але я сёньня падняў пытаньне пра апошнія заявы Лукашэнкі пра тое, што ён на перамовы з апазыцыяй ня пойдзе, а будзе «размаўляць з грамадзкасьцю». На што спадар Вік адказаў гэтак: «Калі ён сарве перамовы, хай наракае пасьля на сябе».

**— Што маецца на ўвазе?**

— Іншыя дзяржавы, міжнародныя арганізацыі адразу адрэагуюць на гэта рэзка нэгатыўна — далейшай ізаляцыяй і ігнараваньнем яго ды ягонага ўраду.

**— А што да плянаванага Вамі падпісаньня заявы пра перайманьне абавязкаў прэзыдэнта?**

— Я гэтае пытаньне перад Вікам не падымаў. Бо гэта ж вынікае з Канстытуцыі. І ніяк не кранае працэсу перамоваў. Гэта між сабою не зьвязана. Усё вырашана ў нашай Канстытуцыі.

Мы дамовіліся сустрэцца ў Вільні наноў праз дзесяць дзён. Спадар Вік прывязе канкрэтныя прапановы па складзе дэлегацыі і па тэрміне пачатку перамоваў.

**— Ці ўяўляеце Вы сабе перамовы з Лукашэнкам?**

— Адмаўляць гэтага ня трэба. Але ведаючы Лукашэнку... Ніводзін дыктатар не станавіўся дэмакратам. Перамовы прадугледжваюць павагу да другога боку. Сумняюся, што Лукашэнка на гэта здольны.

**— Ці вызначаўся тэрмін, да якога Вы, беларуская апазыцыя і АБСЭ гатовыя чакаць крокаў насустрач?**

— Размова ідзе пра верасень.

Гутарыў Сяргей Харэўскі



Фота Антона Сіюля

*Сямён Шарэцкі з Гансам-Георгам Вікам ля будынку Таварыства Беларускай Культуры ў Вільні 22 жніўня*

камэнтар тыдня

# Паміж намі, дзевачкамі

Камэнтары пра Дагестан, якіх цяпер багата ў нашай дзяржаўнай прэсе, кожнага разу спыняюць на думцы пра асабістую пазыцыю тых, хто гэта ўсё піша. Фактаў не даюць, а толькі камэнтуюць і подпісы ставяць усё болей жаночыя.

Прызнацца, ня так лёгка, седзячы ў Менску, скласьці свой погляд пра тое, што адбываецца ў тых далёкіх гарах ды сьтэпах. Тая вайна выглядае заканамернай з пункту гледжаньня гісторыі і паходжаньня бакоў: «нашы» прылятаюць самалётамі з Разані й Екацярынбургу, а «іхныя», «чужыя», «бандыты» ваююць у тых аулах, дзе нарадзіліся. Зь іншага боку, жаданьне «адарваць ад Расеі» ўсьлед за Ічкерыяй і Дагестан супярэчыць міжнародным пагадненьням пра непарушныя межы. Хоць няма сумневу, што кожная беларуская (ды й расейская) душа ў глыбіні сваёй адчувае, што Дагестан — усё ж не Расея. Праўда, нельга не сказаць і пра тое, што той маджахедзкі сьвет надзвычай адрозны ад нашага, беларускага.

У такім клубку супярэчлівых пачуцьцяў для беларускага журналіста ягоны маральны і прафэсійны абавязак — адсочваць і рэтрансьляваць праўдзівую інфармацыю. А гэта зусім няпроста. Бо асноўныя нашы інфармацыйныя каналы — расейскія — знаходзяцца ў стане вайны з Басаевым.

Працяг на старонцы 2.

## лісты ў рэдакцыю

### «Зубронак» як сымбаль Бацькаўшчыны

*17-га жнiўня ўрачыста сьвяткаваліся 30-я ўгодкі лягеру «ЗУБРОНАК» (такую назву паведамляе шыльда перад лягерам).*

*«На 20-годзьдзе прыяжджаў поўны аўтобус начальнікаў зь Менску, а цяперака — тры дзядзькі», — скардзіліся мясцовыя бабулькі.*

*Усё было арганізавана ў найлепшых традыцыях. Выязны гандаль кока-колай і печывам, піянэры ў чырвоных гальштуках і расейская папса, сьпевакі зь Менску з рэпэртуарам «Катюша» і «Прощание славянки», індыйскі факір зь цьвікамі, цырк зь пітонам, разьбіваньне дошак галовамі, уздыманьне чырвоназялёнага сьцяга пад бязмоўны гімн, «именные часы», прэмія кіраўніку — 15 МЗП, супрацоўнікам — па 1 МЗП, вэтэран камсамольскага руху з успамінамі пра 1969 год.*

*Тым часам у карпусах цяжка знайсьці гарачую ваду, у прыбіральнях цякуць краны і часам няма вады, у пакоях — дзіркі ў сьценах: здаецца, яны зараз абваляцца. Нават у мясцовай памяткі — самалёта, які стаяў ля сталоўкі — адвалілася крыло, і яго схавалі ў гаражы.*

*Калі вецер дзьме з боку Нарачы, на вуліцы нельга знаходзіцца — па берагах валяюцца здохлыя вугры, іх выкідае кожны дзень дзясяткамі, сотнямі. Найбольш дасьціпныя мясцовыя жыхары і турысты вэндзяць і прадаюць тхлянную рыбу ў Менск на патрэбу «новым беларусам».*

*У Занарачы — што ля 5 кілямэтраў ад «Зубраняці» — усё шкрабуць і чысьцяць, чакаецца, што ў чацьвер прыляціць на верталёце Аляксандар Рыгоравіч — інспэктаваць мясцовы калгас «імя Леніна» ці «Шлях да камунізму».*

*Новая беларуская рэчаіснасьць — як нарачанскія вугры: аддае тхлом, але, добрым чынам падвэнджаная і падсмажаная, яна яшчэ можа быць прададзеная.*

**Алесь Кахановіч, Маладэчна**

***

*У старажытным Брагіне, у якім яшчэ 20 гадоў таму жыло працэнтаў 80 беларусаў, цяпер зусім іншая этнічная сытуацыя. Яўрэі ўсе зьехалі, шмат беларусаў выселілі пасьля Чарнобылю, і зараз большасьць насельнікаў Брагіна — нелегалы і паўлегалы з Каўказу і Азіі, яны захапілі нашыя (у тым ліку і мой) дамы, будуючь мячэт... З сабой яны прынесьлі ня толькі іслам і цюркскую мову, але й наркотыкі, крымінал. Яны атрымоўваюць розныя дапамогі (у тым ліку і гуманітарныя для чарнобыльцаў), амаль ніхто зь іх не працуе і таму ня плоціць падаткі.*

**Максім П., Гомель**

***

*Кажуць, сёлета ў Берасьцейскім унівэрсытэце за чатыры балы за пераказ трэба даць хабар у 400 даляраў. Мабыць, без прэзыдэнцкіх людзей тут не абышлося. Бо просты берасьцейскі рэктар пры такіх жахлівых кантролях, як цяпер, не пайшоў бы на хабар.*

*Летась у Берасьцейскае мэдычнае вучылішча, каб паступіць, трэ было даць 500 даляраў. А пасьведчаньне аб вышэйшай адукацыі без вучобы каштавала тысячу даляраў, а каб правучыцца ў Берасьцейскім політэхнічным інстытуце, трэба было заплаціць 1,5 тысячы даляраў. І я ведаю хлопца, што ўсе гады вучобы толькі і езьдзіў на заробкі ў Польшчу, каб заплаціць хабар. І з божай дапамогай закончыў. Вось што робіцца пры ўсенароднa ізбранным.*

*Як наконт дзяржаўнай сымболікі, у народзе ходзіць такая прымаўка: «Памяняў коніка на канюшыну».*

**М.Літвінчук, Берасьце**

*УДАКЛАДНЕНЬНЕ*

*У «Нашай Ніве» (№18 ад 9 жніўня) у артыкуле Сяргея Харэўскага «Скрадзены скарб-2», на жаль, ёсьць фактычная неадпаведнасьць. Цытую: «Пасьля сьмерці Эўфрасіньня, якая валодала Крыжом, была далучаная да ліку сьвятых. У запавеце яна пагражала тым, хто возьме Крыж з манастыра, карамі нябесными ды вечным праклёнам. Гэта ведалі ўсе, таму Крыж заставаўся некрануты да 1921 году, калі бальшавікі перадалі яго ў Магілёўскі музэй». Акрамя праўды пра бальшавікоў, тут усё атрымліваецца, як у папулярным сэрыяле: «Праўда недзе побач». Па-першае, Эўфрасіньня была далучаная да ліку сьвятых зусім не адразу пасьля сьмерці. Яе кананізавалі толькі ў 1547 годзе. Дагэтуль шанаваньне асьветніцы адбывалася нават не па ўсёй Беларусі, а ў Маскоўскай Русі (як сьведчаць дасьледаваньні Ўл.Арлова, А.Мельнікава) пра беларускую сьвятую ўвогуле амаль ня ведалі да XVI ст. Па-другое, казаць сёньня, што Крыж «заставаўся некрануты да 1921 году» проста недарэчна. Вядома, што праз нейкі час па сьмерці Эўфрасіньні Крыж з Полацку вывезьлі ў Смаленск. Ішло суперніцтва паміж гэтымі гарадамі, і ў гэты пэрыяд перамога была на баку смаленскіх князёў. Пасьля акупацыі Смаленску расейцамі ў 1514 годзе Крыж у якасьці трафэя трапіў у Маскву. У 1563 годзе, калі расейскія войскі акупавалі ўжо й Полацак, Іван Жахлівы загадаў вярнуць сьвятыню на месца. Вось тут якраз спрацавала пагроза праклёну: прымхлівы цар вырашыў не рызыкаваць. Але яшчэ раз у 1840—1841 г. Крыж вазілі ў Маскву і Пецярбург, дзе яго аглядаў Мікалай I, а прыдпрымальнікі з кіраўніцтва праваслаўнае царквы зараблялі вялікія грошы, дазваляючы выкарыстоўваць наш нацыянальны сымбаль у хатніх набажэнствах прыдворнае знаці (крыху пра гэты эпізод у кнізе Л.Аляксеева «Археология и краеведение Беларуси. XVI в. — 30-е годы XX в.» — Менск: Беларуская навука, 1996; стар. 56—57).*

**Сяржук Аржанцаў, Клімавічы**

## дзе варта быць



Пакуль не распачаўся тэатральны сэзон у большасьці менскіх тэатраў, тэатралам няма іншае дарогі, як у Малы тэатар Ігара Забары. **24 жніўня** тэатар дае нашумелую **«Камэдыю»** К.Марашэўскага, а **26-га** — спэктакль **«ART»** паводле п'есы францускай драматургесы Ясьміны Рэзы, што зь посьпехам ідзе ва ўсім сьвеце, ад Брадвэю да Масквы. Таму невыпадкова, што менскую пастаноўку ажыцьцявілі тыя, хто ўжо мае імёны ў тэатральнай Эўропе. Рэжысура Мікалая Пінігіна, сцэнаграфія Зіноўя Марголіна, ролі выконваюць Віктар Манаеў, Сяргей Журавель і Ігар Забара. Спэктаклі адбудуцца ў Доме Афіцэраў а 19-й гадзіне. Цана білетаў: 350—800 тыс.руб.

**485** гадоў таму на полі, дзе Крапіўна ўпадае ў Дняпро, нашыя продкі на чале з князем Канстанцінам Астроскім паказалі расейскім «інтэгратарам», хто ў нашым доме гаспадар. Сем гадоў таму сотні людзей, узброеных гітарамі, з усёй краіны зноў зьехаліся пад Воршу. Над




слынным полем ізноў залуналі сьцягі беларускай славы, і наваколле напоўнілася песьнямі першага нацыянальнага фэсту бардаўскай песьні. Тады, у 92-м, здавалася, што наша перамога не за гарамі... Сёлета на Крапівенскім полі 4 верасьня а 18-й зьбяруцца тыя, хто стаяў ля пачаткаў беларускай аўтарскай песьні. Кася і Алесь Камоцкія, Віктар Шалкевіч, Андрэй Мельнікаў ды іншыя барды. Каб без апаратуры й рэклямы пасьпяваць ля вогнішча свае лепшыя песьні, памянуць колішнія ілюзіі ды набрацца сілаў на новыя перамогі. Далучайцеся. Тэлефон для даведак: (02161) 4-71-07. Удзень вас абавязкова сустрэнуць на вакзале. Хто будзе ехаць на аўто, падаем схему.

Менская кінаафіша гэтымі днямі нічым асаблівым пацешыць ня можа, але затое можна паглядзець, як робіцца кіно. Рэжысэр Дзьмітрый Астрахан **23 і 24 жніўня** на 10-й раніцы й да вечару ў Траецкім прадмесьці здымае свой чарговы шэдэўр пад назваю **«Альхімікі»**. Звычайна менскія вуліцы ў стужках гэтага маскоўскага кіношных спраў майстра «граюць» ролю альбо польскага мястэчка («Зь пекла ў пекла»), альбо расейскай правінцыі («Кантракт са сьмерцю»). Гэтым разам Менску пашанцавала. Траецкае прадмесьце будзе Лёнданам. У галоўных ролях вядомыя піцерскія прыкалісты Стаянаў & Алейнікаў. Жадаючыя могуць зьняцца ў масоўцы — аплата 800 тысяч за здымачны дзень.

Ёсьць такая маленькая, але вельмі гордая краіна Ўэльс. У яе няма ні свайго войска, ні сваёй грашовай адзінкі. Ні нават свайго народнага прэзідэнта. У іх ёсьць мова, сьцяг і футбол. Беларуская зборная ўжо мела магчымасьць пазнаёміцца з гэтай краінаю, пакінуўшы на полі кардыфскага стадыёну тры ачкі. **4 верасьня** ў рамках адборачнага турніру Эўра-2000 на



менскім стадыёне «Дынама» адбудзецца матч у адказ. За нашу краіну з нашымі сьцягамі!

# ПАМІЖ НАМІ, ДЗЕВАЧКАМІ

*Працяг са старонкі 1.*

Ісламскія ваяры таксама не адседжваюцца ў інфармацыйных акопах і вядуць сваю прапаганду. Таму даведацца, ці гэта 3 расейцы і 100 маджахедаў загінулі мінулай ноччу, ці 100 расейцаў і тры маджахеды, найчасьцей немагчыма. Незалежных крыніцаў практычна не існуе. І гэта для нас самае галоўнае.

Гэта пару гадоў таму ў Ічкерыі на прэзыдэнцкіх выбарах працавала група журналістаў з «Нашае Нівы» і, здаецца, толькі зь яе. Дзяржаўныя газэты сваіх не пасылалі. Ну дык мы і стараемся пісаць тое, што ведаем. Хоць аб'ектыўнай інфармацыі ўсё адно бракуе.

І вось у такім становішчы дзяржаўныя камэнтатаркі дазваляюць сабе безапэляцыйныя сьцьверджаньні і нават іронію з удзельнікаў баявых дзеяньняў. «Уже очевидно, что боевики проигрывают». Каму і адкуль відавочна? З таго, што кампанія па зьнішчэньні баявікоў замест двух тыдняў расьцягнутая на некалькі месяцаў? «Полевые командиры просчитались. Вопреки расхожему мнению о слабости Кремля, сегодня наблюдаются четкие действия... Тон задал Путин». Ну, нішто не ратуе афіцыёных агляідальнікаў ад таго, каб, у горшых савецкіх традыцыях, да кожнай падзеі падыходзіць эмацыйна і з «асабістай зацікаўленасьцю». І гэта пры тым, што базавая інфармацыя даходзіць з трэціх рук. «Ну, што там у нас у Ліване?» — казаў вядомы пэрсанаж менскага быту, вяртаючыся ад станка дахаты.

Што ж, дзевачкі, давайце з пункту гледжаньня прафэсійных беларускіх журналістаў паспрабуем сфармаваць межы нашае дазволенае эмацыйнасьці што да падзеяў на Каўказе. А наш пункт, нагадаю, мусіць фармавацца з гледзішча нацыянальных інтарэсаў той краіны, якой мы грамадзяне.

Вы баіцёся развалу Расейскае Фэдэрацыі. А што калі гэта гістарычная заканамернасьць? Падставаў для такога дапушчэньня больш чым дастаткова. Але наша задача — разгледзець, як той развал ці неразвал паўплывае на нашыя нацыянальныя інтарэсы. Калі апусьціць развагі пра імпэрскую ідэю, рэванш і г.д. (што для нашае незалежнасьці, безумоўна, не на карысьць), дык нам, па вялікім рахунку, трэба будзе разьвіваць дачыненьні зь любой Расеяй — разваленай або не. Магчыма, з многімі, але сумаштабнымі нам і таму больш зразумелымі краінамі і лепей будзе, чым з адной велізарнай. Лепей, чым цяпер. Адкуль тады бярэцца эмацыйнае і нічым не падмацаванае захапленьне Пуціным і іронія з «идеологического босса» Маўладзі Удугава?

Пытаньне, зь якога я пачаў гэтую нататку — пра асабістую пазыцыю нашых афіцыёных камэнтатараў, — вырашаецца ўрэшце наступным чынам. Нашыя дзевачкі глядзяць расейскія навіны ў тэлевізары і тут жа сядаюць пісаць свае эмацыйныя рэфлексіі з падсьвядомаю думкай пра тое, што спрычыняюцца да расейскага інфармацыйнага поля, а то й канкуруюць з тамтэйшымі Мітковымі ды Сарокінымі. Разумею, што кожная дзяўчынка марыць стаць прынцэсай або прымадонай, патрапіць на эстраду, у фільм ці ў навіны НТВ. Але горкая праўда ў тым, што ў Маскве нашых салідных газэт не чытаюць. Таму пакіньце Дагестан Дагестану і вяртайцеся з далёкіх мрояў на сваю беларускую зямлю. Тут — свае людзі, свая краіна, і тут вас яшчэ могуць запатрабаваць.

**Алесь Кебік**

*Апазыцыя рыхтуецца да прапанаванага ўладамі перамоўнага працэсу. Галоўная мэта перамоваў — мірны пераход улады да легітымнага органу, які б прызнаваўся ўласным народам і міжнароднай супольнасьцю. З чым ідзе на перамовы кансалідаваная апазыцыя, у чым яна гатовая саступіць Лукашэнку, а на чым прынцыпова настойваць, якім бачыцца апазыцыі мэханізм перадачы ўлады — адказвае намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту Юры Хадыка.*


Фота IREX-Promedia

# Юры Хадыка: Лукашэнка можа стаць Ярузэльскім, а Пазьняк — прадстаўніком за мяжой

**«НН»: Апазыцыя ідзе на перамовы з Лукашэнкам. Лукашэнка ня раз заяўляў, што заклікае да дыялёгу. Чым адрозніваюцца, з Вашага пункту погляду, перамовы і дыялёг?**

**Юры Хадыка:** Мы тут зьбіраліся за «круглым сталом» на запрашэньне Інстытуту палітычных дасьледаваньняў пры прэзыдэнце. Вось гэта тыповы прыклад дыялёгу. Яны паслухалі, што сказалі мы з Валер'ем Карбалевічам, мы, у сваю чаргу, паслухалі, што сказалі некалькі намесьнікаў міністраў. Зразумела, што нават у дыялёгу ёсьць карысьць, але невялікая — гэта проста высьвятленьне пазыцыяў, дзе могуць быць пункты збліжэньня. А перамовы — гэта зусім іншае. Перамовы павінны мець абсалютна ясна вызначаную мэту, і, у першую чаргу, з боку апазыцыі. Мэта перамоваў з нашага боку — якраз і ліквідаваць сытуацыю канфрантацыі, прыйсьці да нейкага варыянту грамадзянскага пагадненьня, якое павінна быць вырашана сувэрэнам краіны — народам. У гэтым ёсьць ясная мэта апазыцыі ў працэсе перамоваў. Гэты працэс будзе жорсткім і дастаткова працяглым.

**«НН»: Што можа быць прадметам перамоваў, а ў чым апазыцыя не павінна ісьці на саступкі?**

**Ю.Х.:** Прадмет перамоваў — выбары. На працягу перамоваў павінны быць вырашаныя такія праблемы — у які орган яны адбудуцца, я хачу сказаць, што вялікая саступка апазыцыі ў тым, што гэта можа быць не Вярхоўны Савет. Але гэта ня можа быць і Нацыянальны сход, бо ён наагул фантастычная структура без найменшых прыкметаў легітымнасьці. Таму гаворка будзе ісьці аб нейкім варыянце парлямэнту, які будзе мець больш шырокія паўнамоцтвы, чым цяпер мае Палата прадстаўнікоў. Ня выключана, што трэба спачатку выбраць кароткатэрміновы парлямэнт або канстытуцыйны сход, мэта якога — удакладніць Канстытуцыю, зрабіць зь яе дакумэнт, які б задавальняў і грамадзтва, і міжнародную супольнасьць, бо Лукашэнкава канстытуцыя з дапаўненьнямі не вытрымлівае ніякай крытыкі, яна ня можа быць грунтам нават для мадэрнізацыі. І другое пытаньне — ужо сам працэс правядзеньня выбараў у такі парлямэнт альбо ў такі канстытуцыйны сход. Трэба стварыць умовы для свабодных выбараў. Гэта ня толькі закон аб выбарах, асноўныя парамэтры якога павінны таксама быць абмеркаваныя і ўзгодненыя, але і працэдура падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў. Гэта свабодныя сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку дзяржаўныя, бо наша грамадзтва — як прыхільнікі сп.Лукашэнкі, так і ягоныя апанэнты — плоцяць падаткі, на якія існуюць СМІ. Гэта спыненьне палітычных рэпрэсіяў, вызваленьне людзей, якія аказаліся за кратамі толькі таму, што яны занялі антыпрэзыдэнцкую палітычную пазыцыю. Яшчэ адна ўмова, якая не знайшла свайго месца ў Мэмарандуме, падпісаным палітычнымі партыямі, але якая будзе абараняцца Беларускім Народным Фронтам, — несумяшчальне выбараў у заканадаўчы орган зь якімі іншымі рэфэрэндумамі, народнымі галасаваньнямі і г.д. — бо такая працэдура, з чым мы сутыкнуліся ўжо двойчы, стварае несымэтрычную сытуацыю, даючы ў рукі ўлады вялізныя казыры. І таму гэта павінна быць выключана. І нарэшце, стварэньне выбарчых камісіяў, у якіх былі б прадстаўленыя апазыцыйныя сілы.

**«НН»: Перамовы яшчэ не пачаліся, а асьвятленьне ўжо ідзе поўным ходам. Як Вы ставіцеся да асьвятленьня падрыхтоўкі да перамоўнага працэсу дзяржаўнымі СМІ, у першую чаргу, тэлебачаньнем?**

**Ю.Х.:** Ёсьць некаторыя зрухі ў лепшы бок, але яны ледзь прыкметныя. Калі я прыняў запрашэньне ад Інстытуту палітычных дасьледаваньняў удзельнічаць у дыскусіі, была небясьпека, што дзяржаўныя СМІ схопяцца за гэтую падзею для таго, каб супрацьпаставіць яе працэсу перамоваў. Я спэцыяльна двойчы прасіў журналістаў гэтага не рабіць. Бо ад іх дакладнасьці залежыць, як пойдуць самі перамовы. Бо толькі добрасумленнае асьвятленьне будзе спрыяць працэсу перамоваў. «Панарама» дала адносна добрасумленную інфармацыю пра мяне — прынамсі, мае словы не перакручваліся, хоць дзевяць дзясятых часу і «забіў» мой апанэнт з каманды Лукашэнкі. Мабыць, ужо і Лукашэнкаў бок разумее, што хлусьня — рэч небясьпечная, што яна можа прывесьці да зрыву перамоваў, у якіх Лукашэнкаў бок відавочна зацікаўлены.

**«Н.Н.»: У якім статусе, як Вы лічыце, ідзе на перамовы Лукашэнка і ці ня зьменіцца ягоны статус, калі раптам Сямён Шарэцкі падпіша ўказ аб узяцьці на сябе прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў?**

**Ю.Х.:** Важна, што Лукашэнка і сёньня — грамадзянін, які ў лепшым выпадку зьяўляецца в.а. Прэзыдэнта. І тут ня можа быць ніякіх недагаворак, бо паводле Канстытуцыі 1994 году, якая ў нас ёсьць адзіным легітымным законам, ягоныя паўнамоцтвы скончыліся. Ня хочацца нават вяртацца да гэтых сьмешных працэдураў падаўжэньня паўнамоцтваў. Ён проста зьяўляецца першай асобай існага рэжыму, і ад пазыцыі гэтай асобы залежыць посьпех негвалтоўнага, канстытуцыйнага выйсьця з гэтага тупіку. Перамовы ёсьць адзінай магчымасьцю захаваньня хоць якога сацыяльнага міру, і калі Лукашэнка з-за свайго характару сарве іх, гэта толькі падвядзе нас да мяжы сацыяльнага выбуху. Бо зь фінансамі ў нас дрэнна, зь сельскай гаспадаркай — дрэнна, з запускам заводаў — дрэнна. У нас вельмі небясьпечная сытуацыя, і палепшыць яе можна толькі ў адным выпадку — адмовіўшыся ад прымусовага стылю кіраваньня, які вызнае Лукашэнка як адзіна магчымы, пачаць нармальныя дэмакратычныя рэформы — даць волю прадпрымальнікам, сельскай гаспадарцы, наладзіць нармальную фінансава-крэдытную сыстэму, аднавіць дзелавыя сувязі з Захадам, атрымаць адтуль тэрміновую фінансавую дапамогу. Перамовы — і лепшае пэрсанальнае выйсьце для Лукашэнкі, бо толькі шляхам перамоваў ён можа атрымаць сабе статус, аналягічны статусу недатыкальнасьці генэрала Ярузэльскага ў Польшчы. У іншым жа выпадку ён ня выкруціцца ад крымінальнай адказнасьці.

**«НН»: Ці будзе ўдзельнічаць у перамовах Лібэральнадэмакратычная партыя Гайдукевіча? Наколькі можна аднесьці гэтую партыю да апазыцыйных?**

**Ю.Х.:** Такая няпэўная лінія паводзінаў характэрная для партыі Гайдукевіча, не зусім стандартнай палітычнай партыі. Адбор партыяў, якія бяруць удзел у перамоўным працэсе, быў зроблены на падставе вельмі канкрэтных прынцыпаў, і галоўным зь іх было публічнае непрызнаньне канстытуцыйнага перавароту 96-га году. Стаўленьне ЛДПБ да гэтага пытаньня супярэчлівае. Яны не далучыліся да байкоту мясцовых выбараў і бралі ў іх удзел, хоць іх там фактычна ўсіх і вычысьцілі. Пасьля гэтага яны занялі больш радыкальную пазыцыю. Я б сказаў, што ЛДПБ сёньня знаходзіцца ў стане пошуку, і таму прэтэндаваць на стопрацэнтовы ўдзел у апазыцыйнай дэлегацыі яны ня маюць права ні фактычна, ні па сумленьні. Я думаю, што яны ўвойдуць у лік тых партыяў, якія будуць уваходзіць у рабочыя камісіі і будуць рыхтаваць гэты перамоўны працэс. А магчыма, будуць у якасьці запасных.

**«НН»: Зьвернемся да сытуацыі ўнутры Вашай партыі і руху — Беларускага Народнага Фронту. Што чуваць з-за мяжы ад Зянона Пазьняка, ці згодны ён пайсьці на кампраміс?**

**Ю.Х.:** Апошні ліст Пазьняка, які я чытаў, быў датаваны 8 жніўня. Я ня думаў, што Зянон пойдзе на раскол Фронту. Але яго прапанова ад 8 жніўня — гэта раскол: ён прапануе стварыць замест Фронту кааліцыю БНФ. Безумоўна, можа гэта і рэалізуецца, бо сёньня суадносіны сілаў прыкладна аднолькавыя, а адна палова ня ў стане навязаць сваю думку другой. Пазьбегнуць небясьпекі расколу будзе нялёгка, хаця, наколькі я ведаю пазыцыю той часткі арганізацыі, якая падтрымлівае Вячорку, яна будзе выступаць за захаваньне Фронту. Сёньня нам прапануюць «гарызантальны» падзел — два незалежныя кіраўнікі, неабавязковая сыстэма каардынацыі ў выглядзе таго, што кіраўнікі сустракаюцца і абмяркоўваюць штонебудзь. Фактычна, гэта заклік да расколу і здрада інтарэсам Фронту і інтарэсам Беларусі, таму што Фронт — гэта наша агульная каштоўнасьць, гэта самая галоўная апазыцыйная сіла, і было б вельмі недарэчы яе расколваць. Фронт як арганізацыя дэмакратычная можа суіснаваць зь людзьмі, якія прытрымліваюцца іншых поглядаў на тактыку, мэтады дзейнасьці, але галоўная сіла Фронту ў тым, што ён можа выступаць па шэрагу пытаньняў адзіным арганізмам. І наша слабасьць ня ў тактыцы, не ў стратэгіі, а ў праблемах кіраўніцтва, сыстэма якога склалася абсалютна непрымальна.

**«НН»: Улічваючы тое, што каманды Пазьняка і Вячоркі вядуць зараз актыўную агітацыю, як, па-Вашаму, складуцца вынікі галасаваньня на другой сэсіі шостага зьезду БНФ?**

**Ю.Х.:** Я ўжо выказваў сваё задавальненьне наконт таго, што склалася ўнікальная сытуацыя — ніхто не абраны, і людзі маюць магчымасьць паразважаць, падумаць, асэнсаваць сытуацыю. Мы зараз агітуем, гэта робіць і група Папкова. Я перакананы, што мы атрымаем большасьць, бо здаровы сэнс на нашым баку, а ўсе эмоцыі зьмікшыраваныя часам.

**«НН»: У выпадку паразы — які палітычны лёс чакае Пазьняка?**

**Ю.Х.:** Я за тое, каб аўтарытэт Пазьняка ў пэўнай часткі грамадзтва выкарыстоўваўся Фронтам і надалей. Пры ягонай згодзе ён можа атрымаць статус паўнамоцнага прадстаўніка Фронту за мяжой, але не кіраўніка Фронту, які гаворыць нешта няўзгодненае, а потым патрабуе ад менскага кіраўніцтва выкананьня гэтых тэзаў. Павінна быць наадварот — тут фармуецца палітыка Фронту, а Пазьняк выкарыстоўвае свае магчымасьці данесьці яе да дзяржаўных структур, зь якімі ён кантактуе за мяжой. Я думаю, што гэта ніякая не зьнявага, не паніжэньне ягонага аўтарытэту, бо аўтарытэт чалавек набывае сабе сам. І губляе яго сам, дарэчы. І таму, я лічу, што паколькі ягоныя цяперашнія дзеяньні якраз падрываюць аўтарытэт, прычым ён гэта робіць сам, сваімі рукамі, сваімі лістамі, то такая прапанова дае яму магчымасьць аднавіць гэты аўтарытэт.

**Гутарыла Тацяна Каліноўская**

**P.S. Як заявіў 20 жніўня ў інтэрвію праграме «Панарама» паўнамоцны прадстаўнік Аляксандра Лукашэнкі на перамовах з апазыцыяй Міхаіл Сазонаў, «Ніякай размовы пра дыялёг паміж уладай і апазыцыяй не ішло і ня йдзе».**

**Ня першы раз Лукашэнка адмаўляецца ад сваіх словаў і ўчынкаў, «падстаўляючы» верных саратнікаў ды мяккацелых чыноўнікаў. Але ня трэба думаць, што ўсё «прапала» — у ходзе перамоваў М. Сазонаў яшчэ сто разоў памяняе свае меркаваньні, ратуючы «патрона». Заява Сазонава сьведчыць аб адным — улады проста напужаліся кансалідацыі, якая адбылася ў стане апазыцыі, і робяць усё, каб ня мець моцнага палітычнага апанэнта.** ■

зь Беларусі за тыдзень

## Пантонны мост цераз Гарынь

На ўсюды, дзе трэба, у нас ёсьць масты. Гэтак, пад Лунінцам няма моста цераз Прыпяць, і аўтобус Менск—Столін мусіць ехаць у аб'езд ці то праз Пінск, ці то на Жыткавічы. Не было моста й на Гарыні проці Століна. Каб зьвязаць вёскі на правым беразе з самім горадам, прыдумалі хітрую штуку — пантонны мост. Будаваць такі мост узяўся Пінскі суднабудаўнічасуднарамонтны завод. Мост зьлепяць з трох пантонаў агульнай даўжынёй 90 мэтраў, а шырынёй — 10 мэтраў. Абяцаюць, што такім мостам змогуць езьдзіць любыя машыны, піша «Звязда». Яшчэ адна хітрасьць у тым, што на зіму гэты мост будуць разводзіць, каб прапусьціць веснавыя крыгі — вельмі рамантычна! Пабудуюць яго да кастрычніка наступнага году, і прастаіць ён 10 гадоў, а тады трэ будзе яго зьнімаць і рамантаваць. Толькі ці ўсе будуць мець сьмеласьць такім мостам езьдзіць?

## Як у Беластоку беларусаў рабуюць

У Беластоку праходзіла міжнародная канфэрэнцыя, і дзьве яе ўдзельніцы з Горадні сьпяшаліся на абед у тутэйшы рэстаран «Горадня». Пайшлі яны ня самым цэнтрам па вуліцы Сянкевіча, а карацейшай дарогай — па вуліцы Мальмеда. Раптам адна з жанчын адчула нейкае дакрананьне. Яна адвярнула галаву: на плячы ў яе не было сумачкі, а матляўся толькі раменьчык ад яе. Нейкі малойца тым часам зьдзіраў тарбінку ў яе калегі. І пабег. У гэтую ж суботу, піша беластоцкая «Ніва», у беларускае консульства ў Беластоку зьвярнуліся ажно 13 беларусаў з просьбай выдаць ім паперы на падарожжа дамоў — усіх іх абрабавалі ці абакралі ў Беластоку.

Найчасьцей рабаўнікі пільнуюць кабетаў (на мужчынаў нападалі толькі раз ці два). Калі ж кабета ідзе з мужчынам, то чакаюць, пакуль ён куды адыдзецца ці загаўорніцца, а тады падлятаюць да цёткі й вырываюць з рук тарбінку. Бывае й так: муж выйшаў разглядзецца за таварам, а жонка сядзіць і пільнуе машыны. На каленях трымае сумачку, у якой грошы ды паперы, дзяржыць моцна. Раптам злодзей зрывае дзьверы ў машыне, хапае, што пад рукой, і дае драла.

Або яшчэ паваляць бабу на зямлю і забяруць у яе партманэ, дзе б яна яго ні трымала, хоць пад каптаном.

Крадзенае адразу перадаюць сваім кумплям, што стаяць у выгбах, брамах побач — лавіць такіх урвісаў нялёгка. Усё гэта адбываецца ў самым цэнтры — на алеі Пілсудзкага, на Сьвятога Роха, Сянкевіча, Мальмеда, Гаёвай і традыцыйна на Кальварыйскай, дзе знаходзіцца базар. Людзі застаюцца ў вялікай крыўдзе на Польшчу, якая ня можа ці ня хоча абараняць гасьцёў зь Беларусі.

## Беларускі спартовы абутак

Беларуска-гішпанскае прадпрыемства «Белкельмі», якое раней выпускала красоўкі, цяпер перайшло й на бутсы, піша тая самая «Звязда». За гэты год іх выпусьцяць 16 тысяч. 11 тысяч прададуць у Гішпаніі, а 5 тысяч — у нас тут. Узяліся яны выпускаць таксама лыжныя боты. Вырабляюць амаль усё гэта з привазной сыравіны. З нашага бяруць толькі скуру й вусьцілкі вырабу магілёўскага «Хімвалакна», якія па сваіх гігіенічных якасьцях нібыта лепшыя за гішпанскія.

## Менш шкодны рэнтген

У Рагачове на заводзе «Дыяпраектар» сканструявалі новы флюараграфічны апарат «Пульмаскан». Ён лепшы за іншыя тым, што калі ім прасьвечваюць грудзі, дык чалавек атрымлівае ў разоў 5 меней радыяцыі, чым пры прасьвечваньні цяперашнім. Добра, улічваючы, што ўсіх ганяюць на флюараграфію раз на год. Але ж паліклінікі ў нас ня маюць грошай — за гэты год у рагачоўцаў купілі толькі 6 такіх апаратаў, піша «Звязда».

## Дамы для ўзброеных

«Навіны» пішуць, што ў самым цэнтры Менску будуюць «элітныя» дамы — адзін на 81 кватэру для вайскоўцаў, а адзін на 108 кватэраў для контрразьведчыкаў (з 38-мю падземнымі гаражамі). Побач у будучыні мяркуецца прыбудаваць яшчэ два дамы. Найменшая двухпакаёўка ў такім цагляным доме мае 67 мэтраў плошчы, а большая чатырохпакаёўка — 109. Добра, бадай, што дзяржава забясьпечыць тых, хто ваюе, толькі чаму нічога бясплатна не пабудуюць тым, хто працуе — настаўнікам ці дактарам? Беларусы мо й ня мелі б нічога проці кагэбістаў ці афіцэраў, калі б былі пэўныя, што гэта беларускія кагэбісты і беларускае войска. А так і войска застаецца асноўным інструмэнтам русіфікацыі вясковай моладзі і прышчапленьня расейскіх каштоўнасьцяў, і разьведка сама проці сваёй краіны разьведвае, а разам яны дружна ахоўваюць тэкі парадак рэчаў, пры якім беларусы працуюць задарма, а створаная іхнымі рукамі дададная вартасьць абсядае ў кішэнях Лужковых, Беразоўскіх, Вяхіравых і Ельцыных.

## Да канца 2000-га ў Менску будзе тытунёвая фабрыка


Фота IREX-Promedia

Гэтым займаецца сумеснае прадпрыемства «Табак-інвэст», што працуе пад рукою ў Ціцянкова, які кіруе справамі Лукашэнкі. СП, што паказальна, беларуска-багамскае. Пачало яно сваю дзейнасьць летась з цыгарэт «Астра-люкс». Цяпер яно выпускае яшчэ цыгарэты «Карона» й «Форт». Неўзабаве, піша «Звязда», фабрыка пачне выпускаць цыгарэты зь нізкім утрыманьнем нікатыны і смолаў, што шкодзяць здароўю — «лёгкую» «Карону», а таксама якасныя цыгарэты «Гранд», якія, мяркуецца, будуць спаборнічаць з «Мальбара» (хваліліся каліна, што зь мёдам салодкая). Калі ж пабудуюць новую фабрыку, дык на ёй будуць выпускаць больш за 5 мільярдаў цыгарэт у год, палову таго, што выпускае сёньня гарадзенская фабрыка «Нёман». Ясна цяпер, чаму Лукашэнка так валэндаўся й не хацеў пускаць у Горадню заходніх інвэстараў — з «Рэйнальдзам» ягонаму ўласнаму «Табак-інвэсту» канкураваць было б цяжэй, чым зь дзяржаўным «Нёманам». «Табак-інвэсту» ж цяпер — усе выгоды. «Куратар» Берасьцейскай вобласьці Ціцянкоў нават закамандаваў садзіць тытунь на Піншчыне. Толькі тытунь той будзе тхнуць коксагызам і кукурузай. Што ў Беларусі будуць вырабляць свае новыя цыгарэты на замену расейскага выпуску «Мальбары» і «эЛэМу», добра, кепска толькі, што прыбытак будзе сядаць у кішэні купкі прыўладных багатыроў.

Праз стварэньне «Табак-інвэсту» ў Беларусі пачалі вырабляць сваімі рукамі цыгарэтныя фільтры — прычым іх цяпер не бракуе нават на Гарадзенскую фабрыку, якая раней купляла іх заграніцай. Іх, аказваецца, робяць з ацэтату. ■

## 10 гадоў чаргі, каб мець права на крэдыт

Раней хоць лічылася, што каму трэба, можа атрымаць ільготны крэдыт на пабудову жытла, цяпер жа Менгарвыканкам прыняў рашэньне, што такі крэдыт могуць даць толькі тым, хто стаіць у чарзе на кватэру 10 гадоў, з 1990 году, і падпадае пад той Лукашэнкаў «указ».

Былі б хоць зямлянкі дазволілі капаць, чым жыць у гэтых нялюдзкіх інтэрнатах.

## «Народная воля» вінаваціць Віка

У вялікім артыкуле газэта высоўвае рэзкія абвінавачваньні супраць Ганса-Георга Віка, прадстаўніка АБСЭ ў Беларусі — што ён у сваёй дзейнасьці ня столькі імкнецца вярнуць Беларусь на шлях эўрапейскага разьвіцьця, колькі працуе на руку цяперашнім уладам, і робіць гэта небескарысьліва, а з выгодай ці то для сябе асабіста, ці то для пэўных сілаў за мяжой. Прычым газэта намякае нават на факт «дзелавога й фінансавага супрацоўніцтва Віка зь цяперашнім беларускім рэжымам».

Чорт ведае, ці праўда гэта. Ясна толькі, што ў апошні час частка газэт і журналістаў, і сярод іх аўтар гэтага артыкулу Міхаіл Падаляк, стварае ўражаньне, нападаючы па чарзе на ўсіх — спачатку гэта быў Ганчар, пасьля Шарэцкі, тады Шушкевіч, Вярхоўны Савет, БНФ, цяпер ужо й Вік. Прычым аргумэнты з аднаго артыкулу супярэчаць сьцьвярджэньням з другога — нават у аднаго аўтара. Ці ня той самы аўтар, што цяпер абвінавачвае Віка і спасылаецца на аўтарытэт Шарэцкага, тры тыдні таму ў іншай газэце абвінавачваў Шарэцкага, спасылаючыся на аўтарытэт Віка. Сярод менскай інтэлігенцыі ўжо прама кажуць, што спэцслужбы ажыцьцяўляюць вялікую й далёкасяжную апэрацыю па ўзаемаадносінах пад такі падсподны кантроль прыватных выданьняў. ■



**АДАМ СУПРУН**
(1928—1999)

18 жніўня памёр Адам Супрун, навуковец з сусьветным імем, прафэсар, доктар філялягічных навук, доктар пэдагагічных навук, аўтар больш за 500 навуковых працаў. Нарадзіўся ён у Палтаве, скончыў Кіргіскі ўнівэрсытэт, там і пачаў працаваць. Ад 1966 году да апошніх дзён ён загадваў катэдрай тэарэтычнага й славянскага мовазнаўства БДУ. Адама Супруна цікавілі славістыка, беларусістыка, русістыка, тэарэтычнае і прыкладное мовазнаўства, мэтодыка выкладаньня мовы, быў ён найпершым спэцыялістам па палабскай мове — старой славянскай мове, ад якой захавалася невялічкая колькасьць помнікаў XVIII ст. Быў ён сябрам Беларускага камітэту славістаў, камісіі па лексыкалёгіі і лексікаграфіі пры Міжнародным камітэце славістаў, сябрам рады штогодніка «Балто-славянские исследования».

Зямля табе пухам, Адаме Яўгенавіч.

*Фёдар Клімчук*

Вадзім КАРЦАЎ

# САБАКІ І ПАЛІТЫКА



Узгадайце, колькі разоў вы былі пакусаныя сабакам? Я — двойчы. А вы — ніводнага? Пашэнціла. У грамадзтве, дзе культура ўтрыманьня хатняе жывёлы абмежаваная адно заклікам любіць братоў нашых меншых, а культура наагул стагодзьдзі два як выкывае пад братам старэйшым, дацягнуць да такога ўзросту ды каб чытаць разумныя артыкулы ў тоўстай газэце й ня быць хоць адноечы пакусаным — гэта сапраўды шчасьлівы зьбег абставінаў.

Вы дзе гадаваліся? Я — у Барысаве ў прыватным сэктары, дзе блыхастых барбосаў адчапляюць з ланцуга на ноч, каб не брахалі пад вокнамі, не перашкаджалі спаць. Бяз палкі з дому не выходзь, бо ніхто потым не пашкадуе — толькі пасьміюцца. Як, напрыклад, дасюль сьмяюцца з адной мажной цёткі, што ў навагоднюю ноч, здаецца, пазалетась, на добрым падпітку выправілася ў цэнтар да галоўнай елкі, а дзьве сучкі сярэдніх памераў падпільнавалі ды завалілі яе ў сьнег, парвалі ў ашмёткі пуховы паліто, пагрызьлі рукі. Альбо сьмяюцца з хлопца, які даўно бясплённа спрабуе атруціць суседзкага «неўміручага Джэка», бо той калісьці пракусіў яму красовак і, адпаведна, пяту. Напэўна, жывы яшчэ й другі Джэк — трохлапы: хто й за якое злачынства пазбавіў яго аднойчы задняе канечнасьці — жахлівая загадка вуліцы Заходняй, былой Бродні.

А вы расьлі ў шматпавярховым раёне? Тады пэўна ж ведаеце й без папярэджаньняў: па газонах не хадзіць! Ну, калі ёсьць ахвота выкалупваць потым нешта сьмярдзючае з падэшваў, дык, у прынцыпе, можна й прайсьціся — для людзей жа зроблена.

Абуралца нявыхаванасьцю сабак ці іхных гаспадароў сёньня ў нашай краіне, мякка кажучы, не зусім актуальна. Не да таго. Тым больш на фоне ўсеўзроставага сантымэнту да чатырохногіх сяброў. Дарослыя хаця й пужаюць дзетак, каб тыя не кранальі бадзяжных псоў, трыццацю ўколамі ў жывот у выпадку шаленства й прапляшнамі на галаве ў выпадку лішая, але самі дэманструюць гіпэртрафаваную талерантнасьць да нахабных аматараў фаўны ды іхных падапечных. Ну скажыце, дзе яшчэ людзі будуць ціха трываць такія рэгулярныя праверкі нэрвовае сыстэмы, калі ў двары раптоўна падбягае пазнаёміцца якісь дурны ратвэйлер, «хот-дог» без напысьніка ці агрэсіўны неадэкватна памерам улюбёнец пажылае мэм, якому самае месца — у кунсткамэры.

Абурайся не абурайся, а прыродная еднасьць чалавека й ягонага самага вернага служкі перамагае ў нас сёньня любы супраціў. Між тым, супраціў гэты ёсьць ні чым іншым як наступам цывілізацыі. Утрыманьне хатніх жывёлаў у перадавых краінах рэгулюецца законамі, а не інструкцыямі санстанцыі. А законы, вядома, прымаюцца парлямэнтамі ды не бяз спрэчак. І калі мы імкнемся да прагрэсу, раней ці пазьней, але ўзьняць гэтую праблему для грамадзкага абмеркаваньня было б варта, для таго, урэшце, і пісаўся гэты артыкул.

Далёкі той дзень, калі беларускі заканадаўчы орган закіпіць спрэчкамі пра мэтазгоднасьць абмежаваньняў у разьвядзеньні сабак байцовых пародаў (на маю думку, разводзьце хоць какадрыляў, абы тыя шкоды не рабілі); пра даўжыню павадка ў гарадзкіх умовах; пра абсталяваньне пляцовак для выгулу; пра памер падатку на сабак; пра інтэрнаты для бяздомных жывёлаў; пра адказнасьць за жорсткае абыходжаньне з хатнімі гадаванцамі; пра абавязковасьць прышчэпак ад інфэкцыйных захворваньняў і наагул пра прынцыпы фінансаваньня вэтэрынарыі; пра ліцэнзіі на спэцыяльную дрэсуру з патэнцыйна небясьпечнымі наступствамі... Гэта будзе дзень, калі сапраўды можна будзе сказаць, што жывем у цывілізаванай краіне. ■

# У Расеі няма салдатаў

Сяргей РАДШТЭЙН

Фота Associated Press

Растоў-на-Доне. Толькі што прыбыў борт з Дагестану з паранёнымі расейскімі салдатамі

Дагестанская вайна чарговы раз сьведчыць пра вайсковыя здольнасьці Расеі. У Дагестане расейцы маюць безумоўную перавагу ў зброі, але ня ўмеюць ёй карыстацца. Да таго ж якая карысьць ад перавагі ў высокадакладнай зброі, калі яе няма супраць чаго ўжыць: ужываюць яе звычайна супраць значных аб'ектаў, напрыклад, мастоў, а ня супраць асобных пехацінцаў. Расейская праблема ў тым, што няма падрыхтаванай пяхоты. Расейскія аддзелы слаба ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, але нават калі авіяцыя й артылерыя пасьпяхова выконваюць задачы, то аказваецца, што няма каму йсьці ў наступ. Няма падрыхтаваных ваякаў, бо тыя, што ёсьць, толькі і ўмеюць, што фарбаваць траву. Таму яны й нясуць вялікія страты. Да таго ж расейскія салдаты ня хочуць ваяваць невядома за чые інтарэсы.

Грошай на стварэньне пары нармалёвых пяхотных дывізіяў няма, бо ўсе сродкі Масква аддае на абслугу міжкантынэнтальных ракет, каб стрымліваць ЗША. Некалькі баяздольных элітных частак захавалася пад Масквой, але Ельцын нікуды іх не пускае, баючыся перавароту. Экспэрты лічаць, што для перамогі ў гарах трэба, каб расейскіх байцоў было ў 5 разоў больш, чым ісламскіх. Агульную колькасьць расейскіх жаўнераў-прафэсіяналаў (дэсантнікаў і іншых) ацэньваюць у 32 тысячы чалавек, прычым частка зь іх — у Югаславіі. Вось чаму цяпер Масква сабрала амонаўцаў з усёй краіны.

Устанаўленьне поўнага кантролю расейцаў над Дагестанам немагчымае — насельніцтва ставіцца да паўстанцаў як да вызвольнікаў. Трацячы Дагестан, Расея зь ім траціць апошнія магчымасьці эксплюатацыі рэсурсаў гэтага каланізаванага ёю ў XIX ст. краю — найперш каспійскай нафты. Заходняя прэса ўжо выказвае прапанову, каб умацаваньнем стабільнасьці на Каўказе заняліся эўрапейцы — для гэтага ім прыйдзецца палепшыць дачыненьні з Іранам, паспрыяць узмацненьню супрацоўніцтва краінаў рэгіёну з Турэччынай і дамовіцца з Арменіяй пра ліквідацыю расейскіх ваенных базаў. Азэрбайджан і Грузія ўжо выказалі жаданьне ўступіць у NATO, а дагестанцы не хаваюць сваіх сымпатыяў да Баку. Вялізнае значэньне нафты Каспійскага мора ня дасьць заходняму сьвету забыцца на гэтыя абшары.

Цікава, які татальны blackout на інфармацыю з Дагестану ўстанавіў расейскі МУС: журналістаў у раён канфлікту не дапускаюць, а ўсю інфармацыю, якая ідзе ў расейскія СМІ, цэнзуруюць, спрабуючы схаваць рэальны стан справаў. Мы падаем ніжэй самыя апошнія зьвесткі з Дагестану паводле Ісламскага культурнага цэнтру «Каўказ» (ягоны інтэрнэтаўскі сайт www.kavkaz.org). ■

весткі зь Літвы

## Беларускі-прастытуткі

Віленскія паліцыянты выказваюцца за легалізацыю прастытуцыі. Маўляў, ад забаронаў і штрафаў нічога не зьмяняецца. Караюць дзеўку на 300—500 літаў ($75—125), а ў той дзённы даход $1000. Ну дык што? «Рэцыдывістак» затрымліваюць, яны да 30-ці сутак адседжваюць, а толку ўсё адно няма. Дарэчы, спаміж затрыманых замежніц першае месца трымаюць беларускі — 10% ад усіх паненак, якія патрапілі ў кутузку за гэтае дзела. Наймалодшай зямлячцы 17 гадоў, яе дэпартуюць дахаты, а найстарэйшай — 38, і яе не дэпартуюць, бо яна ў Літве знаходзіцца легальна. Што да астатніх, дык спаміж іх пераважаюць літоўкі, але не вільнянкі, а прыежджыя зь іншых раёнаў Літвы.

## Пра дзяржаўную тэлевізію

Літоўская дзяржаўная радыётэлевізійная кампанія апынулася на мяжы банкруцтва. Даўгі складаюць 7 млн. літаў ($1750 тыс.). Начальнік тэлевізіі спадар Ільгініс прасіў гэтыя грошы ва ўрада, каб дапамог. А там спачатку сказалі, што хай выкручваюцца за кошт унутраных рэзэрваў, а пасьля сказалі — дайце плян рэфармаваньня, каб больш у даўгі ня ўлазілі, тады дапаможам. Спадар Ільгініс такога пляну не прыдумаў і падаў у адстаўку.

Цяпер кожнаму ясна, што грошы ўрад знойдзе, трэба было толькі замяніць кіраўніка на больш эканомнага і здольнага. Праўда, і магчымасьці банкруцтва ніхто не адмаўляў. Гэта ж у нас тэлевізія адна, дый тая — не тэлевізія, а рупар Лукашэнкі. А ў Літве адных незалежных тэлевізіяў шэсьць, прычым тутэйшаму кіраўніку ніякі рупар не патрэбны. Калі ўсе ўсё ведаюць, немагчыма людзей дурыць. Дый патрэбы ў гэтым няма.

С.Х.

# Што гэта значыць — быць дужым?

***«Наша будучыня, ня гледзячы ні на што, на Захадзе. Мы, урэшце, больш заходнія, чым усходнія», — заявіў генэрал Аляксандар Лебедзь у суботнім інтэрвію польскай газэце «Rzeczpospolita» з нагоды выхаду па-польску ягонай кнігі «За державу обидно...». Паводле адной з вэрсіяў, новы расейскі прэм'ер-міністар сп. Пуцін — часовая фігура, якая мусіць проста расчысьціць шлях прыходу генэрала Лебедзя, прывучыўшы грамадзтва да таго, што на чале ўраду мусіць стаяць «сілавік», але «ня справіўшыся з задачай вырашэньня дагестанскага канфлікту».***

**— Спадар генэрал, патлумачце, калі ласка, шматсэнсавую назву Вашае кнігі.**

— Назва не азначае настальгіі па мінулым. Польшча, Фінляндыя, а з 1991 году таксама і Ўкраіна, і Беларусь, прыбалтыйскія краіны, краіны Сярэдняй Азіі — гэта несумненна сувэрэнныя, незалежныя дзяржавы. Тое, што было раней, — мінула, тое ўжо гісторыя. У паняцьце «дзяржава» я не ўкладаю прагі вяртаньня да таго, што было, ня дай Божа.

Мяне турбуе тое, што існуе Расея, Расея ў сваіх гістарычных межах. Гэта краіна, якая ў гэтым стагодзьдзі ў розных рэвалюцыях і войнах страціла, паводле розных падлікаў, ад 70 да 75 мільёнаў сваіх людзей. Гэта калясальныя страты. Мы зьведалі за гэты час усё: войны, рэвалюцыі, раскулачваньне, рэпрэсіі...

Калі я кажу, што мне шкада вялікай краіны, я думаю пра тое, што ў выніку паслабленьня Расеі парушылася сусьветная раўнавага. Сьвет заўсёды быў абапёрты на раўнавагу, так ён збудаваны. Гэта ня мы прыдумалі, што дзеяньне роўнае супрацьдзеяньню, гэта закон фізікі. Калі існуе раўнавага — сьвет жыве. Сёньня ж раўнавага парушаная. Нейкім ненатуральным чынам усе нашыя перамогі і дасягненьні — у космасе, у гаспадарцы — усё забыта, прапала.

Але я далёкі ад думкі пра вяртаньне Расеі яе ранейшай ваеннай моцы. Хачу пакінуць у спадчыну маім дзецям і ўнукам нармальную цывілізаваную краіну, у якой можна было б годна жыць. Мы ўжо вычарпалі ўсе ліміты праліваньня крыві. Павінны мы ўрэшце зразумець, і многія ўжо, дзякуй Богу, зразумелі, што найвялікшая зброя, якую мы маем, гэта розум і што толькі розум дапаможа нам збудаваць цывілізаваную краіну.

Як генэрал савецкай арміі, я праліў нямала крыві і, праліўшы яе, прыйшоў да высновы, што гэта ўсё ня мае сэнсу, што кожная вайна, нават стогадовая, сканчаецца перамовамі і мірам.

Я спыніў вайну ў Малдове, закончыў вайну ў Чачэніі. Ведаю адно: у цяперашнім сьвеце шляхам гвалту нічога не дасягнеш.

**— Як Вы ўяўляеце сабе будучыню Расеі?**

— Сёньняшняя Расея — гэта адна сёмая зямлі. Ад сытуацыі ў Расеі залежыць лёс усяго сьвету. Таму Расея мусіць як мага больш безбалесна перайсьці ад таталітарнага ладу, імпэрскага, да ладу дэмакратычнага.

Гэта немагчыма зрабіць адразу. Багаж гісторыі цяжкі. Расея заўсёды змагалася, заўсёды брала на сябе нейкую мэсіянскую адказнасьць, кагосьці бараніла, кагосьці вызваляла. Гэта ўсё ў мінулым. Расея — гэта мост паміж Эўропай і Азіяй, паміж эўраатлянтычным і азіяцкім рынкамі. Трэба, каб гэты мост рэальна запрацаваў, забясьпечваў цывілізаванае, камфортнае жыцьцё сотням мільёнаў людзей. Гэта стратэгічнае пакліканьне Расеі. 80 працэнтаў насельніцтва Расеі жыве ў Эўропе, а толькі 20 працэнтаў — у Азіі, тады як 80 працэнтаў тэрыторыі Расеі ляжыць у Азіі, 80 працэнтаў яе прыродных багацьцяў — у Азіі. Гэтага нельга ігнараваць. Тым ня менш, я перакананы, што наша будучыня, ня гледзячы ні на што, на Захадзе. Мы, урэшце, больш заходнія, чым усходнія. Але маем розных суседзяў. Найдаўжэйшая сухапутная мяжа ў сьвеце, 4300 км, гэта наша мяжа з Кітаем.

**— У сваёй кнізе Вы цытуеце словы Аляксандра III: «Расея ня мае сяброў. Адзіныя яе саюзьнікі, гэта яе ўласныя флоты і войска»...**

— Сьвет уладкаваны такім чынам, што кожны горнецца да дужых, тых, хто мае посьпех. Напрыклад, масавае імкненьне былых саюзьнікаў Расеі ў NATO. Я абсалютна перакананы, што ня ў тым рэч, што ўсе раптам палюбілі NATO, але гэта справа выбару цывілізаванага супольніцтва. Палякі, чэхі заўсёды схіляліся да заходніх структураў. Ды і акрамя гэтага, трэба быць дужым, дужым гаспадарча. Толькі такая сіла мае сэнс. Гэта была б перамога розуму. І калі мы гэтага дасягнем, сьвет зноў набудзе раўнавагу, да нас самахоць вернуцца нашыя даўнія саюзьнікі. Уся справа ў тым, каб мець дужага, паважанага саюзьніка, партнэра.

**— Ці не існуе пагрозы распаду Расейскай Фэдэрацыі?**

— Існуе. Гэта пытаньне разумнай палітыкі. Трэба папросту сказаць, што людзі розных нацыянальнасьцяў — роўныя, што ўсе яны раўнапраўныя грамадзяне расейскай дзяржавы.

**Rzeczpospolita**

з Дагестану

## Дэсантнікі не змаглі ўзяць Тандо

Учора, 22 жніўня, паўстанцы адбілі расейскіх дэсантнікаў, якія спрабавалі завалодаць стратэгічным узгоркам над аулам Тандо. У палон узялі 14 салдат і захапілі таксама 3 БМП. Рэшта адступіла на базу ў Ботліх. Пры гэтым, паводле папярэдніх зьвестак, загінула 4 маджахедыны. Гэтак скончылася спроба блякады селішча. Пазаўчора каля 18.00 у баі ля гэтага аулу партызаны зьбілі расейскі штурмавік. Пілот, як яны мяркуюць, загінуў. Трафэйнай зброі, захопленай у расейцаў за суботу й нядзелю, быццам бы хапіла на ўзбраеньне 70 дагестанскіх валанцёраў.

## Дагестанцы адбілі 2 аулы

21—22 жніўня паўстанцы адбілі ў расейскіх войскаў яшчэ 2 аулы — Ашыно ды Міарсо. Тымчасам група расейскіх салдат акапалася на высотах між селішчам Анды й возерам Казэной-ам і стуль вядзе абстрэл чачэнскай тэрыторыі і дарогі з Чачэніі ў Дагестан. Учора яны разбамбілі машыну «Жыгулі», што ехала па дарозе. 3 пасажыры загінулі, а кіроўцу параніла, але ён змог уцячы з-пад агню. Расейскія войскі таксама быццам бы кінулі ў бой стратэгічныя бамбавікі Ту-22, якія скінулі 15 магутных бомбаў. Між тым ракета, выпушчаная з гор, патрапіла ў сховішча боепрыпасаў у Ботліху.

Учора ж прэм'ер-міністар абвешчанай Ісламскай Рэспублікі Дагестан Сыраждзін Рамазанаў пачаў фармаваць урад, што паказальна, з прызначэньня міністра інфармацыі. Ім стаў Магамад Тагаеў, родам зь вёскі Ансалта Ботліхскага раёну.

## Басаеў: чачэнцы — не расейцы

Паўстанцы абверглі заявы расейскага камандаваньня і інфармацыю кантраляванага ФСК агенцтва «Інтэрфакс» пра «тысячныя страты сярод ісламістаў». Шаміль Басаеў так пракамэнтараваў інфармацыйную палітыку Расеі: «Калі Масква перадае, што ў нас тут гінуць тысячы чачэнцаў, якіх мы патайкі хаваем уначы, яна элемэнтарна ілжэ: Чачэнія — не Расея, а чачэнцы — не расейцы, якіх можна забіваць тысячамі, і ніхто за гэта не спытаецца. Кожнага чачэнца, які загінуў у вайне, на бацькаўшчыне ведаюць асабіста і хаваюць як героя. Той, хто бывае ў Чачэніі, ведае, што інакш тут немагчыма». Страты ж расейцаў за ўвесь час баёў паводле ацэнак партызанаў набліжаюцца ўжо да тысячы чалавек. ■



# САГА ПРА ТОЕ, ЯК ПАЙСЬЦІ Ў ШКОЛУ

Натальля БАБІНА

## Ці трэба баяцца школы?

Баяцца школы, у якую прыйдзецца аддаваць дачку, я пачала здаўна, можа, ажно ад таго моманту, як яна нарадзілася. Моцна мяне турбавала праблема ўзаемаадносін “дзіця-асяродзьдзе”, асабліва калі зь цягам часу высьветлілася, што дзіця ў мяне вельмі спакойнае, добразычлівае да ўсіх і зусім не агрэсіўнае. Праўда, мяне троху супакоіла думка аднаго зь сяброў, які, выслухаўшы мае турботы, заўважыў: “Сама сабе супярэчыш. Дабрыня — самая вялікая сіла. Калі дзяўчынка сапраўды добрая, табе няма чаго баяцца. І яна баяцца жыцьця ня будзе”. Тым ня менш, праходзячы праз двор мясцовай «раённай» школы і міжволі чуючы тыя, калі можна так сказаць, заўвагі, якімі абменьваюцца паміж сабой нават самыя малыя школьнікі, я не магла сабе не прызнацца: не хачу, каб маё малое жыло сярод такіх дзяцей.

Пасьля некаторых роздумаў выйсьце знайшлося: трэба ісьці ў школу, якая вызвалена ад так званага “всеобуча”, то бок у школу з агульнагарадзкім наборам.

## Школы з гарадзкім наборам

Дзеля таго, каб высьветліць, дзе і якія падобныя школы існуюць у Менску, мы зьвярнуліся ў гарана. Былі там не адны такія: разам з намі да інспэктара, які вядзе гэтыя справы, зайшла клапатлівая бабуля-пэнсіянэрка зь Серабранкі і ўпэўнены ў сабе малады чалавек а-ля новы беларус. Інфармацыя, якую нам далі, была вычарпальнай: адрасы, “ухілы”, умовы навучаньня. “У такія школы, сапраўды, ідуць дзеці зь сем'яў, дзе дбаюць пра адукацыю. Але ці гатовыя вы кожны дзень вазіць дзіця ў школу далёка ад дому? — запытала ў нас удумлівая інспэктарка. — Тут патрэбна або свая машына, або кожны дзень уставаць а шостай, каб а восьмай быць на месцы”.

Заўвага была слушнай.

Машыны на той час у нас не было, але быў яшчэ час, каб атрымаць правы і абзавесьціся аўтамабілем, што мы й зрабілі. Так школа пасадзіла нас за стырно, за што я ёй і ўдзячная.

## Калі пайсьці вучыцца?

Наша паступленьне ў школу супала зь нейкай чарговай школьнай рэформай, што выявілася, у прыватнасьці, у тым, што дзецям дазвалялася ісьці ў школу як з шасьці (як было апошнія гады), так і зь сямі год (як хадзілі, прыкладам, мы). Праўда, ніхто з настаўнікаў, да якіх я зьвярталася, ня мог адказаць, як менавіта будзе арганізаванае навучаньне шасьцігодак і семігодак, колькі ж, урэшце, год яны будуць вучыцца, усе разам ці ўсё ж іх падзеляць па гадах і ўсё такое. Пакуль што мы пастанавілі прайсьці дактароў, а потым вырашыць, пойдзем у школу ў шэсьць год ці пачакаем. Загадчыца аддзьдзяленьня ў паліклініцы, якая падпісвала нам дакумэнты, сказала: “Як доктар, я лічу, што для дзіцяці вельмі важна правесьці гэты год дома”. Гэта вырашыла справу. У глыбіні душы я таксама так лічыла, таму, нягледзячы на небясьпеку аказацца наступным годам у класе пераросткам, вырашыла не аддаваць дачку ў школу ў шэсьць год.

Трэба адзначыць, што, зноў-такі, я такая была не адна. На наступны год амаль ва ўсіх школах фармавалі класы семігодак — значыць, многія бацькі, як і я, вырашылі перачакаць год дома. Да гэтага часу і Міністэрства адукацыі неяк дайшло да ладу і высунула канцэпцыю першай, другой і трэцяй мадэлі навучаньня, якая адказвала на пастаўленыя пытаньні.

## Трэцяя мадэль навучаньня

Згодна з гэтай канцэпцыяй, дзяцей прымалі ў класы як бы трох відаў: класы для шасьцігодак, для семігодак, якія не гатовыя да школы (ня ўмеюць чытаць, лічыць, пісаць) і для семігодак, якія гэта ўмеюць. Апошнія замест чатырох гадоў у малодшай школе вучацца тры, праграму падрыхтоўчага і першага класаў праходзячы за год.

Нам пашанцавала: летась быў такі дыфэрэнцыяваны прыём. Але шкада, што зараз дзецям больш не дазваляецца паступаць у школу зь сямі год, а толькі з шасьці. Асабіста я лічу, што большая частка дзяцей здольная “эканоміць” год і праходзіць праграму малодшай школы за тры гады. Мне здаецца, што і здароўе, і псыхіка шасьцігодак яшчэ не гатовыя да школьных рэаліяў — але гэта мая асабістая думка.

## Куды пайсьці вучыцца?

Цяпер у поўнай красе паўстала пытаньне: куды ж пайсьці, якую школу выбраць? Як адгадаць, да чаго ў майго дзіцяці схільнасьці: да матэматыкі? Да моваў? Мо, да музыкі? У шэсьць год, калі няма вельмі адметных талентаў, высьвятліць гэта складана. Цьвёрда я ведала толькі адно: замежная мова, якую цяпер у гімназіях выкладаюць зь першага-другога класу, павінна быць ангельскай. Жывыя прыклады непатрэбнасьці ў беларускіх умовах нават нямецкай, ня кажучы ўжо пра францускую і гішпанскую, былі ў маім асяродзьдзі навідавоку. Не хацелася марнаваць час дзіцяці на непатрэбнае (праз год прыйшлося дайсьці аж да Міністэрства адукацыі, патрабуючы, каб для даччынага класу замянілі францускую мову на ангельскую — але мы такі дабіліся свайго).

Не было для мяне простым і пытаньне аб мове навучаньня. Я не лічу, што адназначна правільна робяць тыя бацькі, якія бяруць з сабой дзяцей на мітынгі. Дзіця, што з захапленьнем выгуквае разам з дарослымі “Луку на муку” і такое іншае, не выклікае ў мяне замілаваньня. Дарослы чалавек у стане супрацьстаяць тым псыхічным перагрузкам, якія нясе з сабой барацьба за нацыянальную годнасьць або за дэмакратыю. А дзіця, асабліва калі гэта дзяўчынка? Калі дарослыя ня ў стане зьмяніць грамадзтва так, як ім здаецца патрэбным, то ці варта ўцягваць у гэта дзяцей? А калі спробы дарослых так і застануцца марнымі? Тады што? Няхай дзеці нясуць у наступнае стагодзьдзе той самы комплекс нацыянальнай непаўнавартасьці, які зараз так актыўна пераадольваем мы? Або няхай стануць Маратамі Казеямі нацыянальнага адраджэньня?

Няварта, на мой погляд, рабіць дзяцей закладнікамі ідэі. Дарослыя могуць і павінны рабіць дзеля аднаўленьня сваёй патаптанай нацыянальнай годнасьці і аднаўленьня справядлівасьці ўсё, што могуць — ад выданьня часопісаў да ўзброенай барацьбы, але гэта справа дарослых, а не дзяцей. Каб не рабіць памылак бацькоў, дзеці павінны быць вольныя ад ідэалёгіі.

Ці ня будзе навучаньне па-беларуску ў чыста расейскамоўным Менску спрыяць фармаваньню тых самых комплексаў, якія, як я думаю, уласьцівыя сёньня “сьвядомым беларусам”? Адказу на гэтае пытаньне я не знаходзіла, аж пакуль на іх не адказала само жыцьцё.

## Як паступіць у першы клас?

Так сама складана, як ва ўнівэрсытэт. Прычым паступіць у школу з гарадзкім наборам прасьцей, чым у звычайную раённую, якая зь нейкіх прычынаў лічыцца прэстыжнай. Туды прымаюць усіх з раёну па “всеобучы”, а на вольныя месцы, якіх мала, тых дзяцей не з раёну, якія набяруць максымум балаў на іспытах (пра іспыты мова наперадзе), а таксама тых, чые бацькі, прыкладам, здольныя заасфальтаваць школьны двор або купіць новыя ўваходныя дзьверы.

Іспыты для паступленьня ў першы клас складаюцца зь дзьвюх частак: размова дзіцяці з псыхолягам і тэст на ўменьне чытаць, пісаць, лічыць, які праводзіць настаўнік.

Размовы з псыхолягам ня выклікалі ў мяне нічога, акрамя іроніі. Урэшце мы здавалі іспыты аж у трох школах (бо ніяк не маглі вызначыцца, куды аддаваць дзіця), і тэсты псыхоляга былі аднолькавыя (кшталту “знайдзі заканамернасьць”, “з кім зь дзяцей, што намаляваныя, ты хацеў бы сябраваць?”), а высновы былі зробленыя надзіва розныя: ваша дзіця не зусім гатовае да школы, бо ня ўмее засяроджвацца; ваша дзіця гатова да школы і ўмее засяроджвацца; вашаму дзіцяці будзе нецікава ў школе, бо па ўзроўні яно перарасло тое, чаму іх будуць вучыць...

Тэсты на пісьменнасьць, якія падрыхтавала ўсё тое ж Міністэрства адукацыі, былі вельмі складанымі. Патрабавалася напісаць дыктоўку (на расейскай мове, на правільнае напісаньне безнаціскных галосных і “и” пасьля шыпячых), разабраць слова па складах і гуках, расказаць, чым зычныя адрозьніваюцца ад галосных, рашыць колькі задач і прыкладаў, скласьці задачу самастойна, прачытаць тэкст на час і г.д. Настаўнікі, атрымаўшы такі тэст, былі ў шоку, як прызнаваліся ў прыватных размовах, добра разумеючы, што нават самыя падрыхтаваныя дзеці зь ім ня справяцца. У некаторых школах наагул адмовіліся ад набору семігодак у класы трэцяй мадэлі, а ў некаторых пайшлі іншым шляхам: калі настаўнікі бачылі, што ў цэлым дзіця цікаўнае да вучобы і разумнае, набіралі дзяцей, нават калі тыя ня ведалі, што па-расейску пасьля “ш” трэба пісаць “и”...

## Так лёс стукаецца ў дзьверы...

Сваячка, сама дасьведчаная настаўніца, пазваніла і сказала: “Я вось тут была ў 26-й школе-ліцэі, дык мне падалося, што там вучацца шчасьлівыя дзеці і працуюць шчасьлівыя настаўнікі... Праўда, гэта школа для таленавітых дзяцей, у каго ёсьць здольнасьці да маляваньня, яна пры Акадэміі мастацтваў, але ж, наколькі я памятаю, Поля таксама любіць маляваць? Падыдзіце туды зь яе малюнкамі”.

Мы падышлі. “Гэта наша дзіця”, — сказалі нам адразу. Калі Поля вельмі добра справілася з трыма турамі іспыту па “ізо”, мы таксама ўпэўніліся, што яна можа тут вучыцца.

На той час школа нам ужо вельмі падабалася: маленькая, па 1—2 класы ў паралелі, спакойная, у сталоўцы абрусы й сурвэткі на сталах... Беларускамоўная, прынамсі ў малодшых класах. Школа спадабалася і Полі, і яна заявіла, што вось тут і хоча вучыцца...

Там яна і вучыцца. Дзесяць хвілін ад парогу да парогу на машыне. Я ў свой час хадзіла ў школу за два кіломэтры лесам, а мой муж — у найбліжэйшую, за плотам. У наш клас возяць дзяцей і з Малінаўкі, і зь Серабранкі, і з Навінак. Усяго іх дваццаць два. Маладая настаўніца Вікторыя Мікалаеўна Валынчык называе дзяцей “дарагія мае крывасмокі”. “Знаеш, мама, калі Марта не магла рашыць задачку, а потым рашыла, то Вікторыя Мікалаеўна так абрадавалася, што яе пацалавала...” Мы пераглядаемся з мужам. “Знаеш, тата, я не разумею, чаму ўсе гавораць па тэлевізары, што іх любімы паэт — Пушкін. У мяне любімыя паэты Вера Вярба, Васіль Вітка і Рыгор Барадулін”. Мы зноў пераглядаемся. “А ці хочаш ты, Палюшок, зноў пасьля канікулаў у школу?” — “Хачу. У нас у сталовай па 11 тысяч прадаецца салат з капусты і жэле. Ты, мама, такіх ня робіш”.

Можна было б расказаць, як ішла вучоба ў першым класе, пра буквар, які разьлічаны на беларускамоўных вясковых дзяцей і дзе сустракаліся такія словы, што гарадзкія бацькі адшуквалі іх у пяцітомным слоўніку, пра знакамітыя “столяраўскія сшыткі”, пра падручнік беларускай мовы, які разам са сваімі героямі Кастусём, Алесяй і шпаком Янкам стаў любімай кніжкай Полі, але гэта будзе ўжо другая сага... ■


Бойка амонаўцаў з расейскімі фанатамі на трыбунах

Фота IREX-ProMedia

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФУТБОЛ

бытавуха

Славамір АДАМОВІЧ

## Серада, 18 жніўня 1999 году

На праспэкце Скарыны, насупраць гмаху КГБ. За столікам п'ю піва «Беловежское». Побач тое самае ўжываюць расейскія фанаты, якія прыехалі на таварыскі матч паміж іхнымі й нашымі. Піва закусваюць ялавічынай, паляць сваю «Астру». Самаму старэйшаму ў групе гадоў трыццаць. Гэты паліць «LM» ды распавядае, як пераплаціў нашаму таксісту.

Матч пачаўся а 19-й. Збольшага запоўненыя трыбуны ўскінуліся чырвона-зялёнымі сьцягамі, разьлегліся воклічы, у якіх дамінавала слова «Беларусь». 12 сэктар усходняга крыла стадыёну амаль увесь запоўнены Маладым Фронтам і проста *нашымі*. Зьяўляюцца бел-чырвона-белыя сьцягі, на што адразу ж рэагуюць спэцназаўцы і міліцыя. У трынаццатым сэктары добра арганізаваная група іхных фанатаў у адзіным парыве ўскідвае рукі, скандуючы: «Русские — вперёд!» Пад канец першага тайму на поле паляцелі пэтарды. Міліцыя рэагуе слаба. Тым часам «рускія» распаляюцца ўсё больш, завязваюцца сутычкі з нашымі. Першы гол у браму беларусаў вызваляе пачуцьці маскалёў па поўнай праграме. Бачачы, што нашыя фаны, міліцыя і спэцназ паводзяць сябе нерашуча, «рускія» ўрываюцца ў дванаццаты сэктар, адбываецца жорсткая бойка. Толькі пасьля гэтага вартавыя парадку актывізуюцца. Праўда, неяк слаба, паколькі няма дакладнай каманды на ліквідацыю беспарадкаў. І ўсё ж на некалькіх асабліва дзёрзкіх расейцаў міліцыянты чапляюць кайданы. Пацярпеў сяржант спэцназу — яму маскалі разьбілі твар. Папала па фізіяноміі і «крату» ў цывільным. Ціхароў тут мора, але яны сваімі відэакамэрамі здымаюць пераважна 12-ы сэктар, дзе Малады Фронт скандуе «Жыве Беларусь!» ды «Раша — параша, перамога будзе наша!» Здымаюць нас нахабна, лезучы раструбамі апаратаў проста ў твар. Сярод супрацоўнікаў спэцорганаў ёсьць і жанчына з камэрай. У яе ладны гарбаты нос, зьлёгку каштанавыя валасы, буйная косьць і правая рука без заручальнага. Адкладзі, кажу, сваю цацку, давай пазнаёмімся, сходзім у «Грунвальд» — тут недалёка. Прамаўчала, бедненькая. Шкада яе.

Пасьля перапынку ніхто ўжо ня сочыць за гульнёй на полі, тым больш, што нашым загналі другі гол. Нехта сарваным голасам крычыць: «Мачы сініх!» (расейскія гульцы ў сіняй форме). Урэшце маладафронтаўцы разгортваюць вялізнае бела-чырвона-белае палотнішча. Здэмаралізаваныя бойкай з расейскімі фанамі, міліцыя і спэцназ нават не спрабуюць яго адабраць, і сьцяг лунае над нашымі галовамі да самага завяршэньня матчу. Па дзявятай гадзіне вечару стала вядома, што нашы прайгралі насуха. Прыкра.

Пасьля «таварыскай сустрэчы» расейскіх фанаў па-ранейшаму абкружае амон і міліцыя, а 12-ы сэктар стрымліваюць спэцназаўцы. Толькі пасьля таго, як гледачы астатніх сэктараў стадыёну пакінулі свае глядацкія месцы, пачалі па адным выпускаць і нас. Выпускаючы, абшуквалі, шукаючы, трэба думаць, нацыянальныя сьцягі. Па традыцыі скруцілі дэпутата Шчукіна. Кажуць, яму перадалі палотнішча самага вялікага сьцяга, што й стала прычынай мянтоўскага нападу.

А палове на адзінаццатую вечара праз скрыжаваньне вуліцаў Сьвярдлова—Ульянаўскай у атачэньні міліцэйскага канвою група расейскіх фанатаў прайшла на вакзал. Прайшла ціха, бяз выкрыкаў, пакідаючы ў беларускіх пастарунках некалькі сваіх таварышаў.

### Гарбатага магіла справіць

У «Звяздзе» за 13 жніўня 1999 году чытаю матэрыял «Пайшоў і не вярнуўся». Аўтар артыкула піша: «Зграя «ваўкоў» у чалавечым абліччы зноў накінулася на бязьвіннага чалавека. Яны наносілі яму ўдары нажамі, білі кулакамі і нагамі. У.Маскалёў залез на мёртвае цела з нагамі і скакаў па яго грудзях і галаве». Вось жа зь нейкім Маскалёвым сядзеў я ў «малалетцы» віцебскага цэнтралу, заехаўшы туды 13 жніўня 1996 году. Гэнаму было 16 гадоў, пачаў сядзець дзесьці з 14-ці, на каленях наколка «ружа вятроў», што азначае «ня стану на калені». Закрылі яго ў Наваполацку за групавое згвалтаваньне (гвалтавалі самі і прымушалі да гвалту пэнсіянэра, які здаваў ім кватэру). Хутчэй за ўсё гэта той самы Маскалёў. І тое самае прозьвішча — «знакавае».

### Пасьля дваццаць першага

Нехта Марцінкене Марына з Шаўляў (Літва), настаўніца ангельскай мовы, піша: «Прывітаньне песьнярам беларускай рэвалюцыі і ня толькі яе! Такое адчуваньне, што я апынулася ў Расеі 1917 году». Марына мае на ўвазе 21 ліпеня 1999 году, калі яна зь сяброўкай апынулася на Кастрычніцкай плошчы нашае сталіцы, набыла ў перакупшчыка маю кнігу, знайшла там мой адрас і напісала гэтыя словы пра нашую рэвалюцыю.

### Канатацыі

Жанчына, якая дапамагае мне ў адной далікатнай справе, мае прозьвішча Чыгір. А дзявочае — Старавойтава. Муж ейны — у лячэбна-працоўным прафілякторыі (знакамітыя ў 80-х ЛТП), ды і сыну пагражае нявола — з таварышам скралі машыну і разьбіліся на ёй. Таварышу — сьмерць на месцы, а яму — турэмная бальніца. Гісторыйка банальная, але прозьвішчы ў ёй фігуруюць вядомыя.

А вось каму не пашанцавала, дык гэта грамадзянам з прозьвішчам Лукашэнка. Хоць ты бяжы ў ЗАГС ды перапісвай яго на іншае, легітымнае. ■

Зьміцер БАРТОСІК

# Несарваныя танцы

«Што можа прымусіць сёньняшняга маладога чалавека адчуць сябе беларусам?..» Быццам больш цікавую тэму для размовы ў дарозе знайсьці было цяжка, чым гэтае пытаньне без адказу. Ды яшчэ едучы ў горад самай брутальнай славы. Казалі, што на ягоных брудных вуліцах скарыстаныя шпрыцы ды прэзэрватывы глядзяцца настолькі ж натуральна, як у Менску абгорткі з-пад марозіва; што ледзь не палова ягоных насельнікаў хворыя на AIDS, а злыя наркаманы кідаюцца пасьля поўначы на выпадковых мінакоў, нібы вампіры, да крыві кусаючы ахвяру з бруднай мэтай заразіць...

Мы з паэтам Славамірам Адамовічам ехалі ў Сьветлагорск, у ваколіцах якога маладыя дэмакраты наладзілі свой дэмакратычны летнік і запрасілі нас выступіць. Так бы мовіць, у вузкім сьвядомым коле.

Для мяне гэта старая загадка — пачуцьцё беларускасьці. І што, увогуле, гэта значыць — адчуць сябе беларусам? З панядзелка загаварыць па-беларуску? Выпісаць суседцы па пляцоўцы «Нашу Ніву»? Урубаць на ўсю вуліцу «Краму» з «NRM»? Ці цытаваць сваёй каханцы згаданага Адамовіча? Я гэтым займаюся ўжо які год. Нават песенькі сьпяваю. А азвацца беларусам не магу. Штосьці замінае. Не дае склусіць. А нейкі Сярожа з падшыпнікавага заводу ўжо напісаў у перапіснай анкеце, што ён беларус і мова яго родная беларуская (што чыстая праўда) і пайшоў кіраць далей, не ўскладняючы жыцьцё лішнімі пытаньнямі...

За гэтымі развагамі я і ўехаў у горад, перайменаваны мясцовымі дасьціпнікамі ў Сьпідагорск. Як гэта звычайна здараецца, чуткі былі далёкія ад праўды й нічога змрочнага ў абліччы гораду не было. Хутчэй, наадварот. Сьветленькі, з правільнай пляніроўкаю вуліц, з акуратнымі дамамі. Якія будавалі, не парушаючы сасоньніку, дзякуючы чаму яны выглядалі хутчэй санаторнымі карпусамі, чым рабочым пасёлкам. Асабліва ўразіў сваімі памерамі нэагатычны касьцёл, нядаўна пабудаваны на ўзьбярэжжы Бярэзіны. Я папрасіў сябра, каб той мяне сфатаграфаваў на тле бажніцы.

Спаткаўшыся зь мясцовым актывістам БНФ і аўтарам «Нашай Нівы» Вадзімам Болбасам, мы ўразіліся яшчэ больш. Мясцовы Беларускі ліцэй лічыцца самай прэстыжнай школаю гораду, куды мясцовая эліта намагаецца ўладкаваць сваіх чадаў. І конкурс на паступленьне штогод павялічваецца. Мы зь сябрам прыйшлі да высновы, што тут можна жыць ня менш поўным беларускім жыцьцём, чым у сталіцы. Мне нават падумалася, што ў бэтонным сацыялістычным горадзе адчуць сябе беларусам значна лягчэй. Тут няма гістарычных муроў, сталічных тусовак, натуральнай вясковай гаворкі, тут ёсьць дзьве тысячы інфікаваных AIDS, але зь іншага боку, тут — несавецкай архітэктуры касьцёл на беразе ды несавецкая прэстыжная адукацыя. І гэтага, аказваецца, цалкам дастаткова, каб выбраць паміж савецкім і беларускім.

> *У Сьветлагорску дзьве тысячы інфікаваных AIDS, новазбудаваны касьцёл на беразе ды прэстыжны беларускі ліцэй*

Наш выступ меўся адбыцца ў адным бярэзінскім санаторыі, на тэрыторыі якога юныя дэмакраты разьбілі свой намётавы гарадок. Я чакаў звычайных вечаровых пасядзелак ля вогнішча з гарэлкай, гітараю ды вершамі, але санаторская адміністрацыя папрасіла выступіць «перад нашымі аддыхаючымі». Можа яна прыняла нас за «пісацеляў», ці сапраўды ёй хацелася пачаставаць клієнтуру жывым аўтарам «Убей президента»... Адмовіць у просьбе мы не маглі.

А дзясятай гадзіне да санаторскай эстрады пацягнуліся купкі мясцовай моладзі з мэтаю патанчыць пад «ветер с моря дул». Чалавек сто са зьдзіўленымі тварамі абступілі вялікую танцпляцоўку. Некаторыя ўжо пасьпелі выпіць. Сьпевы й вершы на мове продкаў у іх пляны ніяк не ўваходзілі. Я гэта зразумеў зь першых акордаў. Тым, зрэшты, цікавейшым было нашае становішча.

Мае апасеньні, што нас прагоняць адразу, ня спраўдзіліся. Нас слухалі. І чым далей, тым больш уважліва. Асабліва Славаміраву паэзію. Як толькі праз дынамікі загучала: «Ты ведаеш, так файна быць з табою І вызваляць твой рот ад успамінаў Пра тых, што цалавалі проста так, Бо думалі пра як бы зьдзейсьніць акт», да сцэны пацягнуліся юныя аматаркі паэзіі гадоў трынаццаці. Не апасіцы трэба эфір на дзяржаўным радыё патрабаваць. А даць хаця б адну гадзіну Адамовічу...

Пасьля ягонай імпрэсіі маёй гітары дадаць амаль не было чаго. Ня вытрымаўшы, некаторыя дзяцюкі пайшлі танчыць пад мае ня вельмі спрыяльныя для гэтага занятку рытмы. Калі я засьпяваў «Сэксрэвалюцыйную», нейкі «сьветлагорскі нарказман», увесь у татуіроўках і з шалёнымі вачыма, падбег да эстрады і ў неверагодна радасным экстазе заламантаваў: «Зьміцер, наша нацыя выраджаецца!» Пасьля чаго, скінуўшы кашулю, зноў кінуўся ў скокі.

Насамрэч ён, сам не разумеючы таго, нас вельмі перакананў у адваротным. Танцы пад Кіркорава спазьніліся на гадзіну. А маглі б, як мяне пераконвалі пасьля, і не адбыцца ўвогуле. ■

# УПЕРШЫНЮ РАЗАМ

***27 жніўня ў Музэі сучаснага мастацтва ў Менску а 17:00 адкрыецца выстава беларускіх жывапісцаў зь Вільні братоў Сяргея і Алеся Покладаў***

Гэтыя два мастакі ўпершыню будуць разам дэманстраваць свае творы на радзіме. Паасобку іх добра ведае глядацкая публіка ў Нямеччыне, Польшчы, Літве і ў Беларусі.

Супольныя ў іх былі першыя радкі біяграфіі — нарадзіліся на Ўсходзе, там, дзе Беларусь сканчаецца Акулінскай пушчаю, у вёсцы Кажамякіна на Краснапольшчыне. Пасьля іхныя сьцяжыны разьбегліся ў розныя бакі. Сяргей Поклад адвучыўся ў Лясным тэхнікуме ў Полацку, вандраваў пасьля па Сібіры, Туве, Уралу. А Алесь тымчасам вучыўся ў Менску, у мастацкай школе імя Ахрэмчыка, затым у Беларускай Акадэміі мастацтваў. Праз шмат гадоў іхныя лёсы скрыжаваліся ў старой Вільні. Менавіта тут яны й сталі мастакамі.


*Алесь Поклад. «Мара».*

Розны досьвед і розныя школы зрабілі зь іх розных людзей, адрозных мастакоў. Бадай, гэта і стала зарукаю таму, што, працуючы побач, абменьваючыся думкамі, яны застаюцца ў розных стылях.

Стыль Сяргея Поклада, які абапіраецца на інтуіцыю, увабраў у сябе розныя ўплывы. Часам амаль узаемавыключныя. Пачаўшы з інсітных рэалістычных пэйзажных кампазыцыяў, ён прайшоў шлях засваеньня літоўскае жывапіснае школы 70-80-х гадоў, зь яе «вітражнасьцю», адкрытымі колерамі й пастознай манераю. Але адных пэйзажаў мастаку не хапае. Ён бясконца экспэрымэнтуе, вывучаючы то Шагала, то старажытныя праваслаўныя абразы, то найноўшы польскі жывапіс. Гэтак утварыўся ягоны пэрсанальны яскравы кштальт, дзе перадусім — досьлед колеру ў няспынных аплікатыўных спалучэньнях. Гэтае захапленьне ўласнымі адкрыцьцямі дало яму той досьвед, які па-ранейшаму кліча далей. Калі ён вылучаецца сярод віленскіх пэйзажыстаў, ён бярэцца пісаць абразы, за імі — нацюрморты...


*Сяргей Поклад. «Мацярынства».*

Аляксандар Поклад атрымаў грунтоўную мастацкую адукацыю ў Менску, роўна ж як і досьвед плыні мастацкага жыцьця, што не вымагае нонканфармізму. Ягоныя работы ідуць усьлед за тым, што ствараецца ў беларускім мастацтве, дапаўняючы яго, дадаючы тое, што яшчэ не было сказана. Гэтае веданьне сфармавала ў ім мэтанакіраванасьць. Ён не экспэрымэнтуе, а стварае дакладна тое, чаго хоча. Ён гатовы паўтарыць кампазыцыю шматкроць, пакуль яна ня стане дасканалай. І гэтае пачуцьцё кампазытара, прымножанае гіранічным сьветаўспрыманьнем, ёсьць найбольшай вартасьцю ягоных сёньняшніх пошукаў. І гэтыя пошукі ўсё далей ад менскае школы. З другога боку, беларускі досьвед падказвае яму, чаго яшчэ няма ў Вільні...

Віленскае мастацтва вяртаецца ў Беларусь. Старая сталіца паўстае ў іхных творах іншаю, жывою, беларускаю.

**Сяргей Харэўскі**

# РАЗМАЛЯВАНАЯ ПАДЛОГА

***Лёнік ізноў зьдзівіў усіх, — паведаміла варшаўская «Gazeta Wyborcza»***

Падлога, пакрытая палосамі фіялетавага, аранжавага і жоўтага колеру, выглядае як водсьвет сонца на зямлі ці траве. Гэтая кампазыцыя ўзьдзейнічае сваёй прыгажосьцю, а яшчэ тым, што нячаста сёньня пабачыш малюнак на падлозе.

Лявон Тарасэвіч — натхнёны, крынічны, ненасычаны... Напэўна, ёсьць яшчэ шмат прыметнікаў, якія б выказалі той голад, які ён адчувае. Голад маляваньня? Хутчэй, голад ахопліваньня прасторы і самавыражэньня. Ён не здабытчык, які задавальняецца тым, чаго дасягае, хутчэй — вандроўнік, які ахоплівае і прыўлашчвае тое, што бачыць, а потым адкідае без шкадаваньня.

Зь сярэдзіны 80-х Тарасэвіч малюе проста на сьценах галерэяў, а ягоныя кампазыцыі па сканчэньні выставаў папросту замалёўваюцца. І тады зьяўляюцца наступныя — на сьценах, у створаных часова тунэлях і калідорах. Цяпер Тарасэвіч пашырыў абшар сваёй экспансіі і кінуў карціну проста на падлогу, ператвараючы нецікавае і асуджанае на галерэйнае дажываньне нутро Галерэі жывапісцаў на Мазавецкай вуліцы ў Варшаве ў свой суцэльны твор. 145 квадратных мэтраў падлогі былі пакрытыя тынкам і шматкаляровым акрылам. Пасьля завяршэньня выставы гэтая кампазыцыя таксама зьнікне.


*Лёнік Тарасэвіч на сваёй падлозе.*

Нежаданьне прывязвацца да мясьцінаў і рэчаў заўважнае таксама ў эвалюцыі алейнага жывапісу Тарасэвіча. На найноўшых ягоных карцінах на палатне (жнівень 1999) пакладзены вельмі тоўсты слой фарбы. Аднак парадаксальна — чым болей фарбы, тым менш вагі. Малыя, размашыста напісаныя абстрактныя карціны нагадваюць квадраты, выцятыя з шырокае плыні фарбы. Мы глядзім у іх як у адлюстраваньні каляровых прамянёў сьвятла. Гэтак і падлога, пакрытая палосамі фіялетавага, аранжавага і жоўтага колеру, выглядае як водсьвет сонца на зямлі ці траве.

У сваім прадстаўленьні ў каталёгу сёлетняй пэрсанальнай выставы ў прэстыжнай варшаўскай галерэі «Захэнта» Тарасэвіч згадвае свае дзіцячыя перажываньні ад наведваньня царквы ў Гарадку на Беласточчыне (дзе нарадзіўся і дзе цяпер жыве), «цалкам пакрытай фрэскамі». У даўнейшых бажніцах ня толькі сьцены і скляпеньні, але й падлога бывала тэрыторыяй мастацтва. У базыліку сьв. Марка ў Вэнэцыі ўваходзіш, як у нутро аздобленай шкатулкі. Сьвет пераварочваецца дагары нагамі, бо нябесны парадак намаляваны ўнізе.

Жывапіс Тарасэвіча, які часам пагардліва называюць «шпалерамі», мае падобную функцыю зачароўваньня прасторы. У гэтым сэнсе ён мае дачыненьне з сакральнай прасторай, бо менавіта яе дзеліць і парадкуе. Ведаючы, што Тарасэвіч нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, мы зьвязваем яго з чымсь духова вышэйшым. Падобныя адносіны да мастацтва праваслаўнага Ежы Навасельскага. Ці не вынікае гэта з вонкавай пэрспэктывы? Існуе, напэўна, ілюзорнае, перакананьне, што праўдзівая духоўнасьць там, а ня тут. Таму ў спрэс каталіцкай Польшчы ўсё праваслаўнае, а ў тым ліку і жывапіс беларуса Тарасэвіча, успрымаецца з асаблівым піетэтам.

Адначасова было б цяжка давесьці, што мастацтва Тарасэвіча больш містычнае, чым творы іншых знакамітых мастакоў. На сёлетняй выставе ёсьць трохі містыкі, але ёсьць і трохі жарту. Выстаўлены вясковы пэйзажык 1972 году (мастаку было 15 гадоў) выконвае падвойную функцыю — даводзіць, што мастак умее маляваць «па-сапраўднаму»: дом як дом і капа сена як капа сена. Зь іншага боку, ён паказвае, як далёка мастак пайшоў у сваім сынтэтычным пераасэнсаваньні натуры.

Ёсьць і яшчэ адзін жарт. У Галерэі жывапісцаў, апрача заляў, занятых сёньня ў большасьці пад кампазыцыі, створаныя Тарасэвічам на падлозе, ёсьць таксама невялічкая прастора — залька бяз вокнаў і зь вялізным люстрам, якую так ня любяць мастакі, бо карціны выглядаюць там мёртва і дрэнна. Тарасэвіч тую зальку затапіў. Выклаў падлогу плястыкавай фольгай і напусьціў туды вады, зьмяшанай з блакітнай фарбай. Утварылася возера ці, калі хочаце, басэйн. Ня варта аднак пераймацца і цьвердзіць, што Тарасэвіч кінуў мастацтва і цяпер замест карцін будзе ствараць басэйны — гэта ўсяго толькі ідэя пераўвасабленьня канкрэтна галерэі. Але ня толькі. Бо тут паўстаюць параўнаньні з самой эвалюцыяй, якая зарадзілася ў вадзе. Вось мы былі рыбамі, а цяпер выпаўзаем на сушу, на беразе відаць трава, дрэвы, нагрэты пясок.

Магчыма, мастак кажа нам, што кожнага разу, калі малюе карціны, перажывае нешта накшталт паўторнага нараджэньня? Калі так, дык няма больш аптымістычнага мастака за Лявона Тарасэвіча. ■



# Валеры Славук. ЗІМА

сто твораў мастацтва ХХ стагодзьдзя

Беларуская кніжная графіка 80-х уся была ў прадчу-ваньнях новага Рэнэсансу. Гэтаму садзейнічалі магутная «ўзорна-паказальная» паліграфічная база і прыход у мастацтва новай генэрацыі, першай цалкам беларускай і паводле паходжаньня, і паводле адукацыі. Сярод тае генэрацыі ёсьць і постаць Валер'я Славука.

...Трапляючы на поўнач Беларусі, што ўлетку, што ўзімку, я часта прыгадваю тыя фантастычныя апавяданьні, што сабраў у гэтых мясьцінах Ян Баршчэўскі. І тое, што першае ж выданьне ягонага «Шляхціца Завальні» па-беларуску праілюстраваў Валеры Славук, родам з Талачыншчыны, — цалкам натуральна. Сьвет Славука, населены фантастычнымі й сапраўднымі істотамі, у шапаценьні балотных чаратоў і чорных лясоў, вялікіх і малых стварэньняў, якіх поўна вакол нас у снах і на яве, — гэта сьвет ягонага краю.

Славук вельмі рана, яшчэ студэнтам, выпрацаваў свой стыль. Перадусім гэта любоў да манахромнай, чорна-белай графікі. Пры тым, любоў лягічная. Ягоныя раньнія кампазыцыі на сумежжы 70-х і 80-х гадоў, як паасобныя, так і зь нізак «Канфлікты» ці «Вандроўкі» — гэта вялікія, больш як па паўмэтры, аркушы, па-барочнаму кінэтычна перанасычаныя дэталямі й пэрсанажамі. Здаецца, ім няма канца, папросту мастаку не хапіла аркуша, каб разьвесьці іх ва ўсе бакі. Уявіць іх каляровымі... Гэта было б нязносна.

Буйнае, амаль хваравітае, уяўленьне мастака ад эратызаваных лірычных сюжэтаў (абавязкова ў антуражы балотналяснoе натуры) у сярэдзіне 80-х адхіляецца да «касьмічных» і «эзатэрычных» тэмаў. Жудасныя пачвары ці не мэханічнага паходжаньня б'юцца міжсобку, як зьвяры ў творах барбарскага мастацтва. Паступова гэтая сьведамая «барбарызацыя», для якой характэрная прага звышпачуцьцяў, пакрысе саступае месца мэтафорыцы, гіроніі.

«Зіма», створаная ў 1987 годзе, нібы падзяляе творчасьць Славука напалам. Перад ёю — бурапена, вір недавыказаных, недавыснаваных фантазіяў, увасобленых у філігранных, працаёмкіх, шматслоўных работах, дзе зьмяшаліся й гістарычныя алюзіі, і касьмічная фантастыка, і беларускія страшылкі пра ночы ў лясох... За «Зімою» — больш трывалая повязь зь «літаратураю», самаабмежаваньне ў прыёмах і больш, больш гіроніі, якая пераўтварае ягоныя пазьнейшыя творы ў прыпавесьці.

Менавіта ад гэтага твору, у якім мастак праэкспэрымэнтаваў з формамі, неўласьцівымі ягонаму «штрыхавому» стылю, падглядзеўшы прыёмы плямаўтварэньня ў японскім клясычным мастацтве, пачынаецца іншы этап ягонае творчасьці. У якім ёсьць і пляма, і проста чыстая бель, паветра, што разьмяжоўвае існасьць і прастору, абмежаваную, хай і ўмоўнымі, але рамкамі. Гэты другі этап прынёс Славуку славу аднаго з найлепшых мастакоў кнігі ў Беларусі.

...Чорная яліна, бязважкае гальлё астэнічнае бярозы й каравыя разложыстыя шаты дубоў... Кожнае дрэва ў беларускім мастацтве набывае сваю пэўную й асаблівую сэмантыку. Яна можа з часам зьмяняцца. Напрыклад, яліны, сымбаль патаемнага, неспазнанага й драматычнага напачатку стагодзьдзя, у Рушчыца, Жукоўскага ці ў Стаброўскага пакрысе мяняюць свой вобраз. Пара ялінаў на краі ворыва ў Астаповіча — сымбаль рассоўваньня межаў чалавечае работы. Радок ялінаў на краі засьнежанай дарогі ў сёньняшняга Задорына — сымбаль няўтулку і бясплодага канца, незваротнасьці...

У 80-я гады сярод флярыстычнае сэмантыкі ў нашым мастацтве ізноў зьявіліся вербы. Ня тыя, кучаравыя зялёныя, што шумяць каля грэблі, а старыя, надламаныя, з пукамі танюткіх атожылкаў. Асаблівую яснасьць матыву гэтага дрэва надавала тое, што яго выяўлялі найчасьцей бязь лісьця, у пару чаканьня. Такія вербы нагэтульки трывала ўвайшлі ў кантэкст нашага мастацтва, што часам, здаецца, бязь іх ужо не ўявіць 80-х гадоў. Першае, што пазнаецца ў «Зіме» — гэта ўсё той жа вербалоз, мёртвы й жывы, які ведае, што ёсьць там, па той бок холаду, ільду і сьмерці...

Сапраўды, падобна да японцаў. Можа, на Хакусая... Аднак адна з найбольшых вартасьцяў японскай графікі — рэалізм, даведзены да эпасу. У «Зіме» Славука эпас даводзіцца да рэалізму. У гурбах, што камякамі палеглі на зьледзянелае гальлё вербаў, мы пазнаем іх — нашы страхі, адчаі, кашмары. Вось яны, стаіліся ў суках. Але ня страшна. Бо і яны мерзнуць, недарэкі. Няма каго пужаць у гэтай ледзяной балотнай пустэльні пад поўняю. Жах і боль, зьнерухомеўшы, засумавалі, бо яны вечныя, а таму мусяць перацярпець гэтую пару...

Холад сыдзе разам з пачварамі, што нараджаюцца адно ў людзкіх галовах. Ізноў пацячэ вада, а па-над балотамі ўздымецца духмянае мроіва. І пырснуць на ўсе бакі зеляненькія атожылкі з ссохлых, нягеглых, каржакаватых вербаў. І вербы, беларускія пальмы ерусалімскія, каторы раз абнадзеяць нас, было зьняверaных, перапоўняць пачуцьцямі й жаданьнямі. Гэтак парадак жыцьця зьменіць пару. А ў новую пару прыйдуць новыя пачвары. І іх будзе легіён. Прыдуманых ня Янам Баршчэўскім і не Валер'ем Славуком...

Сяргей Харэўскі



**Валеры Славук** (мяст. Кохава, Талачыншчына, 1947), графік, мастак кнігі. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 1977 годзе. Аўтар графічных сэрыяў «Прышэльцы», «Вандроўкі», «Спосабы выжываньня». Аформіў кнігі «Беларускія народныя казкі», «Філіпка-сынок», «Удовін сын», «Айвэнга» Вальтэра Скота, «Чорны млын» Юра Базана, «Шляхціц Завальня» Яна Баршчэўскага. Творы экспанаваліся ў Эстоніі, Грэцыі, Расеі, Нямеччыне, Літве, Польшчы.

# МАСТАЦТВА ТЭКСТУ

Упершыню ў Беларусі пройдзе фэстываль пэрфомансу. Мае ён назоў «Навінкі-99», што сьцьвярджае факт нашага існаваньня ў не зусім устойлівым сьвеце. Чым ёсьць мастацва пэрфомансу ў нашыя дні, адкуль яно і што яно, уласна кажучы, прэзэнтуе?

Першыя спробы выйсьці за межы «мастацкага матэрыялу» і прэзэнтаваць мастацкі вопыт як непасрэдны духоўны працэс зрабілі дадаісты ў Цюрыху, культурніцкай айкумэне для ўцекачоў ад першай сусьветнай вайны. Другою спробаю адмовіцца ад «таварнасьці», лэйбавага абстракцыянізму і салоннага поп-арту стаў канец 60-х — пачатак 70-х гадоў у ЗША. Тут, у Нью-Ёрку, і трохі пазьней у Эўропе і распачаўся пэрфоманс як непасрэдная рэакцыя на атаварваньне ўсяго і ўсіх. Пад уплывам 1968 году, дзэн-будызму, паганскага шаманства пачало расьці духоўнае цела і ўдасканальвацца іканаграфія новага мастацкага досьведу, таго досьведу, які мае рысы трансцэдэнтнасьці, таго, чаго ўжо не магло даць ніякае іншае мастацтва, што зьбегла ў звычайны дэкор.

Правядзеньню I-га міжнароднага фэстывалю пэрфомансу ў Менску папярэднічаў удзел нашых мастакоў у польскіх фэстывалях «Zamek Wyobraźni» і «Inner Space». У Эўропе даведаліся пра беларускіх пэрфомэраў і таму адгукнуліся на наша запрашэньне. На фэстываль «Навінкі-99» маюць прыехаць зь Вялікабрытаніі, Гішпаніі, Польшчы, Літвы, Ірляндыі, Нямеччыны, Славаччыны, Даніі.

З нашага боку будуць паказваць свае мастацтва маладыя мастакі і тыя, хто пачынаў пэрфоманс у 80-90-я гады: Віктар Пятроў-Хруцкі, Юры Барысевіч, Алег Алезіс, Лявон Вольскі, Аляксей Іваноў, Людміла Русава, Шура Родзін, Аляксей Лунёў, Гальяш Сін, Ігар Кашкурэвіч, Зьміцер Вішнёў, Алесь Пушкін, Сяргей Ждановіч.

Фэстываль «Навінкі-99» будзе адбывацца ў Палацы мастацтваў і на адкрытых пляцоўках з 7 па 10 верасьня.

Віктар Пятроў-Хруцкі.



Пэрфоманс Віктара Пятрова-Хруцкага «Жульета бук донс», Вербаеў, 1998

# Невялікае пра вялікіх

Адам ГЛЁБУС

**ГОГАРТ**

Ангельскі графік Гогарт пад час шпацыраў па Лёндане рабіў накіды іголкаю на пазногцях. Не сумняваюся, што гэта былі найлепшыя зь ягоных гравюраў. Зрэшты, усё найлепшае, зробленае намі, належыць выключна нам і зьнікне разам з намі, як гравюры на пазногцях.

**СЭБАСЬЦЯН**

Калі малююць сьвятога Сэбасьцяна, працятага процьмаю стрэлаў, у большасьці самых шчырых мастакоў кшталту Мантэны атрымліваецца кактус. А вось калі намаляваны кактус, чамусьці ня згадваецца пакутнік Сэбасьцян, а дарма.

**МАЛЕВІЧ**

Казімір Малевіч — мастак, адзін зь нешматлікіх, які не пабаяўся правесьці роўную лінію безь лінейкі.

**БЭРНІНІ**

Легендарны рымскі творца эпохі барока Джавані Бэрніні зрабіў скульптурную групу пад назваю "Экстаз сьвятой Тэрэзы". Адзін досыць блізкі да Ватыкану гісторык назваў яе "Аргазм сьвятой Тэрэзы". Вульгарна і па народнаму трапна. Штo да маіх уражаньняў ад Бэрніні... Ён выдатна мог пераўтвараць мармур у шаўковыя драпіроўкі. Анючы ў Бэрніні атрымліваліся, а вось анёлы — не.

**МІКЕЛЯНДЖЭЛЁ**

Мне не давае спакою зламаны нос Мікелянджэлё Буанароці. Скалечаны, крывы, выразны, як... Як што? Як барока! У Мікелянджэлё баракальны нос. Можа гэта дзякуючы зламанаму, пашкоджанаму, зьвернутаму набакір носу ён і распачаў стыль барока. Сваімі перакручанымі, надламанымі, мармуровымі рабамі. Барока — гэта рэнэсанс са зламаным носам.

**ГАГЕН**

Палотны Поля Гагена з краявідамі выспы Таіці, з аголенымі таіцянкамі, пальмамі, бананамі, морам — гэта не Таіці, а сны эўрапейца пра Таіці.

**ТЫЦЫЯН**

Ёсьць адна рыса ў творчасьці Тыцыяна, якую я вельмі хацеў бы пераняць. Гэта не залаты каларыт вэнэцыянца, не дакладны малюнак, не кампазыцыйныя пабудовы карцінаў, а ўменьне доўга жыць. Тыцыян пажыў 99 гадоў. 99 геніяльных гадоў. ■

## Уздоўж

Вячаслаў Адамчык. **Разьвітальная аповесьць.** — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 448 с.

Ці не заўважаў ты, чытачу, што падворак, на якім ты ў дзяцінстве разам з суседзкімі аднагодкамі дні навылёт гуляў у хованкі, прыкметна зьмяншыўся ў памерах і на тваё сёньняшняе вока зусім не прыдатны ні для тарзанаў, ані для казакоў-разбойнікаў. Ці не заўважаў, што ў прынцыпе ўсё ў гэтым жыцьці склалася зусім ня так, як было задумана, што сьвет ня тое што перакуліўся з ног на галаву альбо наадварот, проста шчыміць і душыць думка, ці то гэта ўсё вакол счужэла, ці то счужэў ты сам. І здарылася гэта толькі з табою. Калі цябе, чытачу, хоць на хвіліну ахінալі падобныя настроі, дык у новай аповесьці Вячаслава Адамчыка ты зможаш пачуць, а самае галоўнае, пазнаць знаёмую мэлёдыю.

Стары чалавек — гэта той, хто стаіць ля вакна, пільна ўзіраецца ў тлумны дарожны рух, але зусім не цікавіцца тым, *што* адбываецца на той пыльнай вуліцы. Герой «Разьвітальнай аповесьці» Генрык Самец — сам удзельнік тлумнага руху. Ён вяртаецца на Радзіму, на Бацькаўшчыну, але ягонае вяртаньне зусім не падобнае на Адысэеву мадэль вяртаньня, бо ён адно імітуе, што ягоны рух мае мэту, да якой можна дакрануцца рукою. Герой едзе не *на* Бацькаўшчыну, не *да* бацькавай і матчынай магілы, не *да* сваякоў і суседзяў, а *міма* іх, ён абмінае непазьбежныя сустрэчы й прыпынкі, разумеючы, што, па вялікім рахунку, гэтыя абавязковыя складнікі альгарытму вяртаньня зусім не дададуць ані яснасьці ў тым, дзе ты й хто ты, ані вычарпальных адказаў на пытаньні, што хвалююць цябе ладны кавалак часу, а калі быць дакладным — палову стагодзьдзя.

Герой не баіцца наступіць на граблі, што схаваў лёс у траве паплавоў нашага маленства. Ён пра іх ня думае, калі імкнецца заставацца на недасяжнай адлегласьці ад людзей, сярод якіх пачаў сваё жыцьцё. Той магніт, што не дазваляе Генрыку Самцу наблізіцца да гэтых людзей і зрабіць іх рэальнымі саўдзельнікамі сваёй вандроўкі — гэта магніт няёмкасьці перад імі за тое, што ня можаш прыгадаць іменаў, за тое, што калісьці зусім неадэкватна зразумеў іхныя намеры ды ці мала за што яшчэ. І едзе герой у тлумным аўтобусе, па пыльных дарогах беларускай правінцыі, і толькі ён сам сабе можа прызнацца ў тым, што дарога ягоная па сутнасьці — гэта ўцёкі ад свае самоты і «гнятлівага адчуваньня сваё блізкае сьмерці».

У гэтай кароткай рэцэнзіі я вылучу яшчэ твор «На крыльлях смутку й адзіноты», жанар якога сам Вячаслаў Адамчык акрэсьліў як «Старонкі зь дзёньнікаў». У адрозьненьне ад вельмі бэлетрызаваных нататак у «Бэрлінскім дзёньніку», якія таксама ўвайшлі ў гэты том, «На крыльлях...» маюць усе прыкметы прыватных зацемак, не разьлічаных для публікацыі, і напісаныя зусім яшчэ не заўважаным, а таму няўпэўненым у сабе аўтарам. Няхай дзёньнікавыя запісы й былі перапрацаваныя Вячаславам Адамчыкам для гэтае публікацыі, але, тым ня менш, захавалі цымус «нататак для сябе».

**Андранік**

## Бомба

Бутромеев В. **Корона Великого Княжества: Диссертация в полном смысле этого слова на тему: кто же такие белорусы, откуда взялись и что они делают во всемирной истории.** — Масква: ОЛМА-ПРЕСС, 1999. — 336 с.: іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 5-224-00193-5

Калі чалавек упершыню сутыкаецца з грамадзяною Мірскага замку, ён ня можа адразу ахапіць неахопнае, таму што вочы разьбягаюцца ад характва, але падсьвядома адразу ж адзначае, што бачыць нешта неверагодна прыгожае. І адразу вырашае для сябе, што ў гэтую казку хочацца вяртацца зноў і зноў. Так, разгортваючы нову цудоўна выдадзеную кнігу Ўл.Бутрамеева, адразу разумееш, што даўным-даўно нічога падобнага ў руках не трымаў і тым больш не чытаў, і прагнеш працягу...

Наша літаратура, на жаль, забедная на вытанчаныя стравы, прыгатаваныя на манер «Чорнага замку Альшанскага». Тым прыемней трымаць у руках, гартаць, чытаць і перачытваць цудоўныя старонкі «Кароны...». Тут ёсьць усё: гісторыя, каханьне, прыгоды, прыхаваныя інтрыгі і таемная дыпляматыя, нястрымная сьмеласьць і пікантныя анэкдоты. Гэтая кніга ёсьць россыпам дасьціпных жартаў і зьедлівых шпілек. Тут ёсьць усё, чаго так доўга, ажно з 1984 году, нам не ставала. Уладзімер Бутрамееў працягвае ланцуг гістарычных авантур у духу Ўладзімера Караткевіча. На працягу ўсёй дысэртацыі з Вамі размаўляе, пераконвае, сьмяшыць і забаўляе АЎТАР, чыё сэрца ссумавалася па велічы ўласнай Радзімы.

Чытаеш, марыш, з галавой заглыбляесься ў казку. Узмахнуў чароўнай палачкай — раз, і вярнулі Вільню, Смаленск, Беласток і іншыя нашыя землі, бачыш, і зноў бы прасьцёрлася ад мора да мора вялікая дзяржава. Узмахнуў другі раз — і аднавілі б дзеяньне «Статута», узмахнуў трэці раз — і на чале краіны стаў бы чалавек узроўню Льва Сапегі, ці, па пэўным выпадку, па вэрсіі Ўл.Бутрамеева — ягонага сына Антона Сапегі. Мары, мары...

Рэальнасьць жа такая, што кнігу прачытаюць адзінкі, бо «шчырыя» беларусы зь недаверам ставяцца да расейскамоўных тэкстаў, да таго ж для сярэднестатыстычнага беларуса кошт недаступны — усё ж такі дзясятая частка сярэднямесячнага заробку, а наклад усяго тысяча асобнікаў. Апошняя акалічнасьць ні ў якім разе не прыніжае годнасьці аўтара і ягонай працы. Што тут казаць — па сёньняшніх мерках гэта норма. Камэрцыйныя посьпех дысэртацыі на тэму «Хто ж такія беларусы, адкуль яны ўзяліся і што яны робяць у сусьветнай гісторыі» больш чым сумнеўны ў краіне, дзе нават простыя нашчадкі Палуты Бадуновай, маючы па тры вышэйшыя адукацыі, ня ведаюць пра ролю сваёй прабабкі ў гісторыі Беларусі.

І ўсё ж кніга Ўл.Бутрамеева — гэта сэнсацыя, гэта бомба. Яе выдалі — значыць, бомба выбухнула.

**Г.Туровіч**



## НЕЗНАЁМЕЦ

Прыяцель-журналіст падзяліўся нядаўна сваім уражаньнем ад выпадковай сустрэчы. Неяк забег ён у беларускі ПЭН-цэнтар. Тут ягоную ўвагу прыцягнуў дзіўны стары, зусім не савецкага паходжаньня, які засароджана сядзеў за інтэрнэтам. Прыяцель міжволі зачараваўся. Яму падалося, што недзе ён ужо бачыў гэтага чалавека, так не падобнага ні вопраткай, ні выглядам да нашых пэнсіянэраў. Мадэльныя скураныя туфлі, яўна не базарныя джынсы, модная, яркая кашуля гарманізавалі з пахам дарагой парфумы. Асабліва прыяцелю кінуліся ў вочы доўгія сівыя валасы старога, што няроўна спадалі на плечы. Для паўнаты вобразу старога, расказваў прыяцель, не хапала доўгай цыгары ці якой завушніцы. «Хто ж гэты каўбой?» — асьцярожна запытаўся прыяцель. — «Ты што, не пазнаў, — адказалі яму, — гэта ж Быкаў. Завітаў да нас зь Фінляндыі». Адказ прыгаломшыў. Рэч у тым, што мой сябра раней ня раз браў у Васіля Быкава інтэрвію.

Гэтую гісторыю я згадаў у кнігарні, дзе на вочы мне трапілася новае выданьне твораў Быкава, якім выдавецтва «Мастацкая літаратура» вырашыла распачаць сваю сэрыю «Беларуская проза XX стагодзьдзя». У зборнік, які называецца «Знак бяды», увайшлі, акрамя згаданай у назьве кнігі, яшчэ дзьве аповесьці — «Сотнікаў» і «Пакахай мяне, салдацік». Падборка досыць удалая — гэтыя тры творы, напісаныя зь перапынкамі ў дванаццаць гадоў, з 70-га па 95-ты, можна лічыць вехамі ў творчасьці майстра. Стваралася ўражаньне, што якасьцю кнігі «Мастацкая літаратура» старалася затушаваць усім памятную прыкрую гісторыю зь невыданьнем быкаўскай «Сьцяны».

Цісьнёная папера вокладкі, густоўнае спалучэньне розных шрыфтоў, выкарыстаны ў афармленьні фрагмэнт карціны Фэрдынанда Рушчыца «Зямля» і ніводнай хібы ў пераплёце. Усё зроблена, каб жаданьне купіць гэтую кніжку ўзьнікла нават у таго, хто ніколі Быкава не чытаў.

Купіў зборнік і я. Каб упрыгожыць паліцу. Ці бачыў яе сам аўтар — ня ведаю. Мне чамусьці здаецца, што гэты том — апошні, так бы мовіць, плён супрацоўніцтва згаданага дзяржаўнага выдавецтва й самага вядомага беларускага пісьменьніка. Яны яго таксама ўжо не пазнаюць. Тады як ён іх пазнаў даўно.

**Зьміцер Бартосік**

Сяргей БАЛАХОНАЎ

# DIE MODERNEN SAGEN-5



### Забытая нычка

Адзін дзядзька, як і ўвогуле многія мужыкі, любіў рабіць занычкі ад сваёй жонкі, тыркаючы грошыкі ў самыя разнастайныя схованкі, бо заўсёды быў рады знайсьці выпадкам лішні рубель на гарэлку. Ведаючы кемлівасьць жонкі, ён мусіў шукаць штораз новыя й новыя патаемнікі. Жонка ж у доме з усіх рэчаў баялася кратаць адно толькі мужаву паляўнічую стрэльбу. Акурат у ейную рулю й была прыхаваная чарговая порцыя грошай. Затым, як чынілася гэта на зусім нецьвярозы розум, назаўтра хавальнік нічога ня помніў. Так і ляжалі тыя рублі, покуль аднаго разу ў час нейкай урачыстасьці мужыку не закарцела адсалютаваць з дубальтоўкі ў гонар гасьцёў. Выйшаўшы разам з усімі на балькон, ён стрэліў у паветра. З рулі шуганула полымя ды паляцелі шматкі паперы, у якіх распазналіся рэшткі немалавартаснай на той час фіялетавай банкноты.

*Запісаная ад знаёмай маладзіцы, гэтая гісторыя сягае ў савецкія часы. Дзеля інфляцыі й сацыяльнага падзелу цяперашніх нычкі, калі й робіцца, дык робіцца банкнотамі зялёнага колеру. Многія ж цяпер перабіваюцца здаваньнем пустых пляшак.*

### Тэрарыст міжволі

Жывучы ў адным зь менскіх гатэляў, многія прыежджыя дэпутаты Вярхоўнага Савету нейкага скліканьня былі дужа апчадныя ў сэнсе наведваньня рэстарацыяў. Лепш перабіваліся як-небудзь самі ды эканомілі такім парадкам якія-ніякія грошы.

Вось жа аднойчы адзін народны абраньнік, патомны трактарыст, вырашыў пацешыць сябе боршчыкам з кіслае капусткі. Наладаваўшы сяго-таго ў трохлітровы слоік, не забыўшы дадаць ладны шмандэлак сала, ён апусьціў туды ўключаны кіпяцільнік. Дэпутат сядзеў і мройна пазіраў на слоік у прадчуваньні гастранамічнага аргазму. Між тым боршчык пачаў даходзіць да кандыцыі, напаўняючы зусім адметным пахам ня толькі дэпутацкі, але й іншыя пакоі ды калідор гатэлю. А ў тым гатэлі месьцілася тады японская амбасада, працаўнікі якой унюхалі раптоўны смурод і нарабілі алярму, палічыўшы тое за газавую атаку ўсюдысных тэрарыстаў.

*Занатавана ад 40-гадовага палескага апазыцыянэра на адным з сэмінараў у Менску.*

### Няшчаснае бздарэньне

Неяк у аднаго хлапца ўсхадзіўся жывот, як гэта часьцяком бывае ад няслушнага харчаваньня. Вось жа яго пусьціла, а ў шлунку ўжо вуркатала. Насьпела пільная патрэба выпусьціць газы. Балазе рэч дзеялася на вуліцы, і маладзёна не агортваў залішні сорам. Ён даў палёгку жывату ды раптоўна ўчуў за сабой дзіўны, зусім нязвыклы гук, а таксама жаночы покрык. А адбылося вось што. Хлапец проста не заўважыў, што ў легкавіку ля ходніка сядзела жанка, якая за чаканьнем мужа ўздумала трохі пакурыць. Апусьціўшы баковае шкло, яна шчоўкнула запальнічкай менавіта ў той момант, калі дзяцюк зызволіў дабрашчасна бзданўць. Ад полымя запальніцы газавы струмень бухнуў, апаліўшы жанчыне пальцы ды ладна перапудзіўшы.

*Занатавана ад юнай хімікесы, якая між іншага вельмі цікавіцца выбуховымі рэчывамі. Сама апавядальніца сумняваецца ў праўдзівасьці гэтай гісторыі.*

### Экстрасэнсорыка

Адна пэнсіянэрка, жадаючы здавацца больш маладой, зьвярнулася да экстрасэнса, каб той па магчымасьці прыбраў зь ейных валасоў сівізну. Праз колькі сэансаў просьба кабеты ўжыцьцявілася — валасы ізноў сталіся чорныя. Радуючыся гэтаму, яна незабавам надта завагалася, ці ня мела тая лечба дачыненьня да цёмных сілаў. Нагодай да смутных думак стаў выпадак, што адбыўся аднойчы ўначы. Кабета раптоўна прачнулася, нібы адчувала нейкі пагляд. Зьнерухомеўшы ад жаху, яна ўбачыла перад сабою чыесьці нядобрыя бізюкі, што сьвяціліся ў змроку. Калі зрок асвойтаўся зь цемрай, баба разгледзела, што на яе з жэрдкі ўтаропіўся ні хто-які, а маленькі-маленькі чорт, зьвесіўшы вялікія-вялікія яйкі...

*З даўнішняга расповеду маёй мамы, якой скардзілася тая пэнсіянэрка. Нягледзячы на фрагмэнтарнасьць, гісторыя можа зацікавіць псыхааналітыкаў. Асабліва цікавым выглядае прага амаладжэньня, што атрымлівае з тагасьветнай істасьцяй мужчынскага полу кантэкставую сувязь.*

### Радзімка

Людцы добрыя і знаючыя баяць, што саўсім недарма Ляксандар Рыгорач вусы сабе носіць. Гавораць, у яго над губой верхняю радзімка бальшая вельмі ё. То ж во, хавае ад усіх. А я ж ад малых лет знаю: радзімы знак на вуснах — паганая прыкмета.

*Падслухана ў дызэлі ад даволі жвавага дзеда гадоў 60-ці. Дайні забабон беларусаў (гл. «Шляхціц Завальня» Яна Баршчэўскага) набыў зусім нечаканае ўвасабленьне.* ■

Васіль БЫКАЎ

# ПАХАДЖАНЕ

*Прыпавесьць*



Валеры Славук. «Пераход». Зь нізкі «Вандроўкі», 1987.

Уздоўж сухога, бясконцага, парослага калючым кустоўем плато марудна цягнулася гэткая ж бясконцая чарада зьнямоглых людзей — старых, малых, жанок і мужчын. Тут жа ішлі нагружаныя жабрацкім майном схуднелыя мулы, некалькі кароваў, поруч, высалапіўшы языкі, брылі прысталыя сабакі. Сабакі даўно не брахалі, каровы не мычэлі, людзі амаль не размаўлялі паміж сабой — гэтак усіх дапякала зьнямога, сьпёка і стома ад бясконцай гэтай хады. Племя ішло каторы дзень, месяц, а можа, і год. Яго вёў правадыр — сухі, сівабароды стары, што з даўгім посахам у жылаватай руцэ мерна брыў і брыў наперадзе. Вочы яго амаль увесь час былі заплюшчаныя, шлях ён нашчупваў босымі скарэлымі нагамі. Ён ніколі не азіраўся назад на жывую чараду свайго племя, ведаў: пакуль ідзе ён, будуць ісьці і астатнія. Ён жа ішоў толькі проста, зрэдчасу абмінаючы калючае кустоўе, гіганцкія і меншыя кактусы, раскіданыя тамсям па гэтым сухім, абсыпаным каменнымі аскялёпкамі плато. Шлях-напрамак правадыр вызначаў уначы па зорцы Сырыюсу, ад якой браў на шэсьць пядзяў управа і туды кіраваў. Так яму было запавешчана ад ранейшага правадыра, які нядаўна сканаў на гэтым шляху і перад сьмерцю прызначыў кіраваць яго. Рэч у тым, што племя шукала страчаную немаведама калі радзіму. Без радзімы жыць было неяк.

Шлях быў цяжкі — сухі, камяністы і бязводны. Але тая мясьціна, адкуль племя выйшла колькі месяцаў таму, была яшчэ горшая. То было бясконцае багністае балота, што кішэла агіднымі істотамі, кузуркамі, жабамі і п'яўкамі, і не давала ніякога харчу. Да таго ж той край меў дужа нездаровы клімат, ад якога пачалася між людзей ліхаманка, што панішчыла палову племя. Асабліва паміралі дзеці. А безь дзяцей — якая ж будучыня ў племя? Зразумеўшы, што так яны неўзабаве вымруць, людзі рушылі далей ад таго праклятага месца.

Балотны край застаўся далёка ззаду, некаторыя зь людзей ужо і забыліся пра яго. Але й тое, што племя дагэтуль напаткала на сваім шляху, было ня лепшае. Ні травы, ні вады, адныя калючкі ды камяні. І невыносная сьпёка. Часам між людзей чуліся скаргі і нараканьні — маўляў, трэба спачыць, ня йсьці далей, можа нават вярнуцца назад. Некаторыя пачалі гаварыць, што ззаду было лепш, прынамсі была вада, хоць і балотная, але даволі. Аднойчы ўвечары, як спыніліся на начлег і стала трохі вальней у паветры, так сказаў правадыруаднавокі Кірх, старшыня невялікага роду грубых, што з даўняга часу ўваходзіў у племя. Правадыр, які ўжо ледзьве бачыў удзень, бо з часам усё болей сьлепнуў, сказаў, што як сьцямнее, прарэжуцца зоркі ў небе, ён пагглядзіць на іх мільгаценьне і аб'явіць сваё рашэньне. У поўнач ён абвясьціў, што Кірх трапіў пад уплыў злых духаў і калі хоча пагубіць свой род, дык можа вяртацца. Кірх не хацеў губіць род і далей моўчкі пайшоў за ўсімі.

Племя зноў ішло-валаклося наперад вызначаным маршрутам — на шэсьць пядзяў ад Сырыюса, як і завяшчалі продкі.

Няхутка яшчэ камяністае плато з калючкамі пачало саступаць месца раўнейшай зямлі — без калючак і кактусаў. Ісьці быццам бы рабілася лягчэй. Але неўзабаве пад нагамі і вакол пачало большаць пяску. Сьпярша ў ім загрузалі ступні, а затым дзенідзе наўкола пачаліся пясчаныя гурбы, дзюны-барханы — голыя, без травінкі, без калючак нават. Племя трапіла ў зону пустыні. Вады не было нідзе, сонца паліла ўвесь дзень да захаду. Людзі і жывёла змушаныя былі то караскацца на крутабокія барханы, то каціцца зь іх, што зьнясільвала дарэшты. Напэўна, можна было б ісьці між барханаў, але тады была небясьпека згубіць вызначаны ноччу напрамак, і правадыр дужа не хацеў таго. Тут, у пустыні, ён асабліва строга трымаўся вызначанага продкамі маршруту. Некалькі мулаў палі ў дарозе, іх хутка засыпаў пясок. Памерла таксама нямала людзей, асабліва старых і малых; жывыя нічога ня елі і пакутавалі без вады. Племя чулася асабліва незадаволеным, пачаліся размовы наконт таго, што правадыр зусім асьлеп і вядзе не туды. Калі пра тое з абурэньнем выказаўся Кірх, набліжаныя да правадыра задушылі яго. Цела Кірха пакінулі ў пяску пад барханам. Ягоны род, застрашаны і прыціхлы, абраў новага старшыню, пакорлівага і маўклівага. Пра ранейшага казалі без абурэньня: ну нашто было гаварыць! Хто ня ведаў, што не туды ідзем, але ж іншыя маўчалі. А гэты вылез... Род злачыннага старшыні пастанавілі самым апошнім у шляху, і гэта быў першы родізгой, са статусам ніжэйшага за іншых.

Шлях, між тым, рабіўся ўсё горшы. Пачаліся пясчаныя буры; вецер і пясок засьцінулі даханьне людзям, мулы не хацелі ісьці на барханы, і іх цягнулі некалькі чалавек на вяроўках. Людзі ўвогуле маўчалі, але набліжаныя да правадыра таксама ўжо адчувалі незадаволенасьць. Некаторыя выказваліся адкрыта, што іх шлях памылковы, што гэткім кірункам нікуды яны ня прыйдуць. Тады правадыр і ягоныя памагатыя пакаралі сьмерцю яшчэ шасьцярых чалавек зь ліку незадаволеных. Племя працягвала ўпарта лезьці наперад. Рознага роду сумневы і нараканьні ўважаліся як здрадніцкія і караліся адпаведна. Большасьць племя лічыла, што так і трэба: здраду трэба караць. Правадыр часам да паўночы мераў па зіхаценьні зорак накірунак шляху, і кожны раз выходзіла, што ідуць правільна.

І сапраўды, неяк быццам стала вальней, сьпякотны вецер уняўся. Барханы сталі ніжэйшыя, ужо не струменілі ручаямі пяску. Але неўпрыцям падкацілася новая бяда — рабілася надта сьцюдзёна. Сьцюжа пачалася з начы, а ўдзень ужо не было ад яе куды дзецца. Насустрач падзьмуў ледзяны вецер, студзіў твары і грудзі. Людзі пачалі хварэць на прастуду, асабліва малыя. Цёплай апраткі ў іх не было — яны ішлі з поўдня. Старэйшыя меркавалі, што гэта часова, што неўзабаве зноў пацяплее. Але мінаў час, а не цяплела — наадварот, халаднела ўсё больш. Зь любасьцю людзі пачалі ўспамінаць той час, як было цёпла і нават горача. Гарачыня цяпер здавалася куды лепшай за сьцюжу. Людзі поўдня, яны ня ведалі, што гэта надыходзіла зіма. Ня ведаў таго і правадыр, які за тое паплаціўся жыцьцём.

Задушаны самым блізкім целаахоўнікам, стары правадыр застаўся ў стэпу, а целаахоўнік, якога звалі Хірт, назваўся правадыром. Назаўтра ён аб'явіў узрушанаму племю, што кірунак мяняецца на адваротны. Племя вяртаецца назад.

Тая вестка была ўспрынятая племем зь вялікім энтузіязмам, шмат хто зь людзей сталі ўспамінаць, як было добра там, адкуль яны прыйшлі. Хірта, ушаноўваючы за розум і адвагу, вырашылі ўсю дарогу несьці на руках, абы толькі ён правільна паказваў шлях. Накірунак на кожны дзень ён вызначаў не па Сырыюсу, як гэта рабіў яго папярэднік, а паводле новай, рэвалюцыйна-народнай мэтадалёгіі — па накірунку ветру. Выбіраць шлях такім чынам, каб ледзяны вецер на тую пару дзьмуў людзям ззаду. Тое дужа спадабалася спакутаваным ад сьцюжы людзям. Тым болей, што, паколькі сьцюдзёны вецер дзьмуў на той час з поўначы, яны ішлі знаёмым шляхам на поўдзень. Ізнай радасьці не было межаў...

Праўда, хутка высьветлілася, што мясцовасьць трохі адрозьнівалася ад ранейшай, значыцца, племя трохі ўхілілася ўбок. Пачалася тая ж пустыня, пясок, і пакуль што не канала сьцюжа. Хаця людзі ведалі, што дзесьці павінна пачацца цяпло, нават сьпёка. Ды сьпёка не пачыналася. Ісьці рабілася ўсё горш, людзі і жывёла зьнемагалі. Асабліва, як пачаліся барханы. Знайшліся такія, што пачалі наракаць: ня трэ было вяртацца. Лепш бы неяк прыстасавацца да сьцюжы, хоць бы выкапаць норы, як бурундукі. Новы правадыр Хірт, мабыць, быў разумнейшы за папярэдняга, ён увёў строгую адказнасьць за недазволеныя размовы. Таму, хто выказваўся няправільна і тым дэстабілізаваў грамаду, адразалі язык. Безьязыкіх выганялі з чарады племя ў барханы, дзе яны хутка гінулі ў поўным маўчаньні. Іхных родных Хірт ставіў у канец чарады, дзе набраўся ладны лік ізгояў. Ніякіх правоў у параўнаньні зь іншымі ізгоі ня мелі. А тых, хто ўхваляў палітыку Хірта, ставілі бліжэй да правадыра, яны склалі яго атачэньне, названае элітай. На зайздрасьць астатнім эліта мела нямала розных правоў і прывілеяў.

Племя ішло марудна і доўга. Людзі ў тым шляху нараджаліся і паміралі. А таксама змагаліся за жабрацкую ежу, глыток вады і за ўладу — унутры родаў, у шчыльных шэрагах эліты і нават сярод ізгояў. На кожным часе зьяўляліся свае героі, якія звычайна рабіліся начальнікамі. Іх, як і правадыра, узялі за звычай несьці ў шляху на насілках — каго дзень, каго тыдзень, каго ад поўні да поўні. Хірт наогул ніколі не зьлязаў з аздобленых гірляндамі насілак, зь якіх ён аддаваў каманды, рабіў заўвагі, хваліў лепшых са свае шматлікае эліты. Але ніхто яго не асуджаў за тое — усе ведалі, што ўгары асабліва дзьме вецер, кожны подых якога ловіць слаўны правадыр Хірт. Дзеля справядлівасьці варта зазначыць, што Хірт удасканаліў сыстэму вызначэньня маршруту і рабіў тое ў залежнасьці ад напрамку і сілы ветру, колеру неба і нават мяркуючы па характары ўласных сноў. Спасьцігнуць такую складаную сыстэму не было дадзена нікому, і племя было шчасьлівае, што трапіўся такі разумны правадыр.

З гэтым ягоным розумам, аднак, сталася штосьць непрадбачанае — племя зайшло не туды.

Пасьля доўгага шляху, як яно нарэшце дасягнула зыходнага балота, таго не пазнала, так усё тут зьмянілася. Або гэта было іншае балота, калі палічыць, што Хірт памыліўся. Хаця сьпярша пра тое ніхто нават ня мог падумаць — іхны правадыр не памыляўся ніколі. Тым ня менш цёплая бузяная вада ў балоце была непрыдатнай для піцва — некалькі сасьмяглых дзяцей, што напіліся з дарогі, адразу ж памерлі. А галоўнае — тут была процьма агідных вадзяных пацукоў, вужакаў і страшных крыважэрных пачвараў накшталт кракадзілаў. У першую ж ноч на начлезе ля берагу тыя схапілі і зжэрлі шасьцёх чалавек зь ліку пагарджаных ізгояў, якіх правадыр разьмясьціў ля самага берагу. Уранку тыя паднялі бунт з крыкамі: куды нас завялі? Надзіва, іх падтрымалі астатнія роды. Мудрага, растлусьцелага на насілках Хірта, зьвязаўшы, кінулі ў балота, дзе яго адразу ж разьдзерла зграя хвастатых кракадзілаў. Тут жа племя абрала новага кіраўніка, якім стаў, можа і ня самы разумны (нават трохі дурнаваты), затое самы дужы дзяцюк па прозьвішчы Слон. Слон аб'явіў, што паколькі шляху наперад няма, трэба вяртацца назад. Ідэя, запавешчаная продкамі, правільная, толькі ў племя не хапіла волі яе зьдзейсьніць, — ягоныя правадыры былі скрозь злыдні, дурні і здраднікі. Ад сёньняшняга дня ўсё будзе інакш, племя дамажацца сваёй мэты. Дружныя крыкі ўхвалы ўзбадзёрылі правадыра Слана, і ён пачаў ладзіць паход. Ягоны, слановы, род паставілі на чале калёны, ранейшы авангард, што складаўся з роду Хірта, запхнулі ў самы зад. Тады ж пасьмяротна рэабілітавалі першага, сьляпога, правадыра, але ягоны род застаўся на ранейшым месцы, недалёка ад заду. Племя выцягнулася ў даўгую няроўную чараду — зь дзецьмі і старымі, муламі, козамі і сабакамі. Начальніцкія насілкі ўсе патапілі ў балоце, вырашылі трымацца прынцыпу братэрства і роўнасьці — усім ісьці пехатой. Слон ішоў наперадзе і вызначаў кірунак, які пазнаваў па месцы сонца на краявідзе. Дзе яно было, туды і трэба было кіравацца. Слон сказаў, што сонца не ашукае. Тое было проста і справядліва, кожны і ў любы час мог пракантраляваць напрамак руху. Усе дужа спадзяваліся на ўдачу.

Яны доўга і ўпарта ішлі наперад і празь нейкі час натрапілі на знаёмае камяністае плато з калючым кустоўем, кактусамі і жарствой пад нагамі. Але тое месца пазналі ня ўсе, а толькі самыя старыя. Бо тыя, што нарадзіліся пасьля, тут не былі і нічога не пазнавалі. Яны толькі радаваліся новым уражаньням. Старыя ж адно круцілі галавамі ды маўчалі. Выказваць свае меркаваньні яны даўно ўжо былі адвучаныя.

Пасьля пачаліся пяскі. А за імі барханы. Ісьці рабілася ўсё цяжэй. Сьпёка рабілася невыноснай, але ўсе маўчалі. Адно ведалі — ісьці.

Затым сьпёку памалу зьмяніла сьцюжа, а за ёй усчаўся мароз. Спакутаваныя людзі ўсё часьцей успаміналі, як цёпла было каля роднага багністага балота. Хоць і з кракадзіламі. Кракадзілы, мусіць, усіх бы ня зьелі...

Тады неяк уранку, як зьмерзла некалькі немаўлят, натоўп разьюшаных жанок забіў правадыра Слана і абраў на яго месца самую галасістую жанчыну, якую клікалі Ах. Яна і павяла племя — вядома ж, назад. Праз тыя ж барханы, пясок, камяністае плато. Да балота, кракадзілаў і пацукоў, якіх стала яшчэ болей. Новыя пакаленьні каторы раз пераканаліся, што тут жыць нельга, трэба некуды йсьці. За правадыра абралі маладога хлопца, які мала што ведаў і яшчэ менш памятаў. Ён павёў племя ранейшым маршрутам, праз плато і пустыню — да сьцюжы. Усё паўтаралася, як і раней. Мяняліся толькі правадыры.

З таго часу племя і ходзіць — з канца ў канец. Пайсьці іншым шляхам яно ня можа, бо ня ведае куды. А гэты замацаваўся ў геннай памяці пакаленьняў. Досьвед няўдач ды пакутаў нічога ня значыць, бо кожнае пакаленьне ўсё пачынае спачатку. ■

# ДЗЯВОЧЫЯ ПЫТАНЬНІ

***Як і сто гадоў таму, беларускі мужчына па-ранейшаму асацыюецца зь селянінам***

*У розных краёх Беларусі, на вуліцах Пінску і Менску, мы прасілі сустрэчных дзяўчат адказаць на наступныя пытаньні:*

***1. Якія добрыя якасьці ёсьць у мясцовых хлапцоў?***

***2. Якія дрэнныя?***

***3. У колькі гадоў дзяўчыне лепей выходзіць замуж і чаму?***

***4. Беларускі мужчына — які ён? Якім павінен быць?***

У Пінску зь якасьцяў назвалі дабрыню, чуласьць, інтэлект (праўда, большасьць «інтэлектуалаў» зьяжджае ў Менск ці Берасьце), прыгажосьць і мужнасьць. Разам з тым, пінчукам бракуе выхаванасьці, стрыманасьці, весялосьці й добрых манераў, многія зь іх легкадумныя. Але галоўная хіба — схільнасьць да паленьня, гарэлкі, наркотыкаў.

«Дзяўчаты мараць выйсьці замуж амаль зь дзіцячага садка, — сказалі нам. — Але яны не павінны сьпяшацца з гэтым сур'ёзным крокам». Як доўга трэба чакаць? Да 19—26 гадоў. У сярэднім пінскія дзяўчаты зьбіраюцца замуж у 20—21 год. Чаму? Яны лічаць, што ў такім узросьце яны ўжо дастаткова разважлівыя, каб не памыліцца ў выбары, да таго ж трэба й дзетак нарадзіць не пазьней за 25—26 год, каб потым можна было яшчэ папрацаваць. Але на практыцы ў Пінску вельмі шмат маладых мацярок (19—21 год) — кажуць, з-за юнацкага каханьня ці нахабнасьці хлапцоў, якая прыводзіць да выпадковае цяжарнасьці. Пажадана, каб абраньнік быў на пару (ад 2 да 10) гадоў старэйшы, разважлівы і мог забясьпечыць сям'ю.

Мэтанакіраванасьць, простасьць, сьціпласьць і пяшчота беларускага мужчыны, на думку пінскіх дзяўчат, спрэс суседзяць з дрэннымі якасьцямі: замкнёнасьцю, нявыхаванасьцю, бракам інтэлекту і кепскімі звычкамі.

А вось думкі мянчанак наконт шлюбу. Лепей, лічаць яны, выйсьці замуж у 23-25 гадоў, маючы вышэйшую адукацыю, пачаўшы кар'еру ды пазбыўшыся юнацкае легкадумнасьці й залішняга рамантызму. Але ў рэальным жыцьці часта атрымліваецца, як і ў Пінску, — раней. Прычыны тыя самыя.

Што ў Менску думаюць наконт беларускага мужчыны? Ён асацыюецца ці то зь селянінам, ці то з дачнікам, ён працавіты (асабліва на зямлі), добры, вельмі любіць есьці бульбу. Але ён трохі нявыхаваны і схільны да гарэлкі. Галоўным адрозьненьнем ад астатніх эўрапейцаў назвалі вочы — як сапраўднае люстра душы й патаемных жаданьняў. А адна з апытаных зазначыла, што на вёсцы людзі лепшыя за гарадзкіх, маральна чысьцейшыя.

Паспрабуем зрабіць высновы. Як і сто гадоў таму, словазлучэньне «беларускі мужчына» асацыюецца зь вёскай, зь селянінам. Калі казаць пра замужжа, дык адразу бачны большы прагматызм і мэтанакіраванасьць менскіх дзяўчат (хоць менавіта з-за жаданьня «пагуляць» шмат хто зь іх выходзіць замуж раней, чым планавалася).

Беларускі мужчына, па частках «сабраны» з адказаў, на жаль, выглядае ня вельмі прывабна з-за чырвонага носу і бутэлькі гарэлкі пад пахай. А вось найбольш частыя пажаданьні: «Беларус павінен быць добрым, разумным, прыгожым, далікатным, з пачуцьцём гумару».

У наш «сацыялягічны нерат» трапілі таксама дзяўчаты з-за межаў Беларусі. Погляд з Масквы: «У параўнаньні з масკоўскай моладзьдзю беларусы больш прыемныя, натуральныя й простыя». Погляд з Кіева: «Не хачу хваліцца, але ў Кіеве ўсе ўсьміхаюцца, робяць камплімэнты, праходзячы побач, ідуць на кантакт, а ў Менску адсутнасьць гэтага шакуе».

**Аляксандар Кудрыцкі, Анатоль Котаў**



Фота Дзяніса Раманюка.

Вільня

## паштовая скрынка

**Сяргею Б.** з Гомеля. *Фантастыка трохі ў стылі «Маладосьці» 80-х гадоў. «Гістарычная сэксалегія» — ОК. Але сэксалегія — гэта мадэрнізм, а сагі — клясыка. Жывых саг ня кідайце — гэта вечнае і Ваша. Пра Сьветлагорск, напрыклад? «Улялюм» ужо ёсьць у трох перакладах. Мо до, а мо й ня до.*

**Алесі С.** зь Менску. *Лепш пісаць не «сярод сяброў Алесі Серада», а «сярод сяброў Алесі Серады».*

**Юрасю Ч.** зь Пінску. *Прымаем.*

**Андрэю В.** зь Менску. *Галоўнае, што мае рабіць мужчына — ён мае перадусім заставацца спакойным. Кватэра, машына плюс хата ў вёсцы — гэта і ёсьць Беларусь і яе ідэя. Гэта калі лічыць Ваш допіс за пытаньне.*

**Леаніду Г.** з Гарадку. *Друкуйце. Перадамо.*

**А.Ч.** з Польшчы. *Расейскія антысэміты пры канцы 80-х хадзілі зь лёзунгам: «Кто курит, пьёт вино і піво, тот пособнік Тель-Авіва». Каб жа і нам не заварыць такой куцьці. У старых грэкаў было вельмі важнае паняцьце «энкратэя» — стрыманасьць, умеранасьць, якая лічылася адной зь пяці галоўных цнотаў побач з мужнасьцю й мудрасьцю. Менавіта мера часта праводзіць нябачную і цяжкую да акрэсьленьня граніцу між зямным і заганным, харошым і паскудным. Сапраўды, мастацтва жыцьця ёсьць мастацтвам густу й меры. А гэта — «п'яніц у Беларусі хапае і без рэклямаў і конкурсаў» — слушна.*

**Максіму П.** з Гомеля. *Пытаньне «што аб'ядноўвае беларусаў» у Вашым кантэксьце гучыць чыста рытарычна. Няма такой краіны, дзе ўсе былі б адной думкі. А гістарычныя прыклады таго, каб наяўнасьць розных думак у грамадзтве прыводзіла да грамадзянскай вайны, адзінкавыя. Гэта проста катастрафізм нейкі, узрошчаны нашымі афіцыйнымі мэдыямі й літаратурай. «Каб не засталося пакрыўджаных і незадаволеных»: заўсёды і ўсім задаволеныя тыя, хто нічога ня робіць. Словы «пладавітыя і ўстойлівыя» — калі пра выхадцаў з Цэнтральнай Азіі — гучаць палітычна некарэктна. Што калі сядзяць і нічога ня робяць, дык усё здаецца благое — гэта ўсе ведаюць.*

**Віктару Д.** зь Менску. *«Ліцьвіна» ў нас няма. Пішаце надта добра, але пра што?*

**Кастусю Траўню** зь Менску, **Прафэсару Каркарану** зь Менску, **Лідзе Куратавай** з Дружнага. *Зьвярніцеся ў рэдакцыю па ганарар.*

**Уладзімеру Аніськевічу** з Баранавічаў. *Ваш прыз за конкурс «Піва за Беларусь» ляжыць у рэдакцыі, прыедзьце па яго або паведаміце Ваш адрас, мы Вам пошталю дашлем.*

## прыватныя абвесткі

Стаматалягічную бормашыну (БПК-02 турбінка, разам з наканечнікам). Вельмі танна. Тэл. у Віцебску: 36-99-49, Леанід Дунец

Электрамузычны інструмэнт «Casio SA-21» (для дзяцей — 99 музычных інструмэнтаў у адным, 32 клявішы). Вельмі танна. Тэл. у Віцебску: 36-99-49, Леанід Дунец

Куплю энцыкляпэдычны даведнік «Беларусь». Тэл.: 284-24-21, Генадзь

Рэгіне Вашкевіч зь Ліды мае самыя халодныя пацалаваньні з Гомеля ў такую сьпёку. Сяргей Балахонаў

Мужнага Юрася Карманава з народзінамі віншуе прыхільніца творчасьці. Расьці вялікі!

Зьбіраю інфармацыю пра М.Багдановіча (Ялцінскі пэрыяд). Буду ўдзячная за дапамогу. Алена Бакун. 224014, г. Берасьце, вул. Сьмірнова, 93/1-15

Новыя плякаты «NRM» — 100/70 см, дызайн М.Анемпадыстава, Р.Макарава. Кошт — 1 у.а. Тэл.: (017) 223-07-65, Андрэй

Адчуваю: закахаўся ў Часўскую Алесю Аляксандраўну 1982 г.н., а лета праляцела. Трэба наліваць, трэба танчыць. Віктар Юркевіч

Юруля! Нават у Парыжы замест Эйфэлевай вежы ўбачу тваю постаць, а ў брудней Сэне — нёманскае сітавінне тваёй скуры

Відэафільмы «Ісус», «Пяты элемэнт» (пабеларуску). Продаж, запіс. Станішэўскі Віталь. 220107, а/с 150. Тэл.: 240-78-01

Абвяшчаецца падпіска на відэафільм «Адважнае сэрца» (касэта з запісам/запіс на касэту) — папярэдні збор грошай. Станішэўскі Віталь. 220107, а/с 150. Тэл.: 240-78-01

Хлопец-бісэксуал (23) шукае новых сяброў. Магчыма сумеснае пражываньне ў Вас. Ві ад 18 да 35. Я сымпатычны, з гумарам, в/а. 220073, а/с 187, Менск

Жанчына (48) шукае працу ад 100$. Любыя прапановы. 220050, Менск, а/с 109

Прадаю сола-гітару. Фаз, файзэр-эфэкты, шнуры, чахол-«чамаданчык», прыстойны рэмень. Тэл.: 215-77-21, Даша

Сёмы нумар газэты «Радавая Беларусь» — органу Народнага Сакратарыяту Беларускае Народнае Рэспублікі — усяго за 20.000 — гэта адзіная крыніца інфармацыі з БНР. Дашлеце капэрту й купон б/а на адрас: а/с 169, 220030, Менск

Рэдакцыя газэты «Наша ніва ісьцінная» паведамляе, што наступны нумар выйдзе ў верасьні-кастрычніку. Тэкст спн.Алесі Серады абяцаемся надрукаваць — арыгінальна!

Сп.Віктару Жыбулю! «Нашу ніву ісьцінную» набыць ні дзе нельга. Мы вам яе ўжо выслалі! Дзякуй за вершы. Рэдакцыя

Пры таталітарызьме большасьць народу — маса, пры дэмакратыі большасьць — асобы, творцы. Вячаслаў Мілкоўскі

Усякі ўладар падбірае сваю каманду па сабе. Яны — як ягоныя двайнікі ў інтэлектуальным, маральным, культурным пляне. Вячаслаў Мілкоўскі

Прапануем в/а працу на хаце (250 у.а.). гэта Вы можаце! Укладзіце 2 капэрты са зв/а + купон б/а. 220089, Менск, а/с 122

## Наша Ніва 90 гадоў таму

# Ад нашых карэспандэнтаў

**В. Жамайтэлі, Рукойнскай воласьці Віленск. пав.** Вёска наша мае 300 душ. Чым жа яны займаюцца? Аруць зямлю — хлебаробы — кажуць, а я б, прыглядзеўшыся ім, сказаў бы, што яны «дымаробы», — бо нават бабы смокчуць тытунь.

*Праўдуказец.*

**Новы Двор, Лідзк. пав.** У Лідз. пав. земскі Шацілаў устроіў тэлефоны межы трыма валасьцямі: Дубіцкай, Астрыцкай і Сабокінскай. Можа за некалькі гадоў гэтак усякая воласьць будзе мець тэлефон, і гэтакім парадкам можна будзе гаварыць з кім захочаш па ўсёй нашай бацькаўшчыне — Беларусі.

Зь першых жа дзён не абышлося бязь сьмеху. Пан М., тутэйшы памешчык, ехаў уночы дахаты, і навадворскім абычаем, ехаў не серадзінай дарогі, а бокам, зачапіў носам за дрот, каторым слуп быў прывязаны да зямлі. Назаўтра распух нос, як жбанок, «ось і пагаварыў праз тэлефон» сьмяюцца людзі.

*Адзін за ўсіх.*

**Бяларуцкая воласьць Менск. губ. і пав.** Бяларуцкаму пісару прыслалі рэвальвэр, каб ён аддаў яго лесьніку казённага лесу Гайна. Той, не разгледзеўшы добра, што ў ім ёсьць адзін набой, даў гэты рэвальвэр жыдку, каторы ехаў у Гайну, каб аддаў яго лесьніку, а той паказаў яго Ігналю Курашу, каторы, цацкаючы гэты рэвальвэр у руках, падстрэліў бабу.

*Праснак.*



**Газэта прымае таксама абвесткі большым шрыфтам за невялікую плату**

*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*

*— па-мастацку аформленая аб'ява (мінімальны памер рэклямнага модулю 18 кв. см) — 180 000 руб.;*

*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 25 000 руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*



**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

**Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 6-га верасьня**


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537. Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.





Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2802. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18[05], 22.08.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4281. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.